• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

15 верасня 1998 г. аўторак, № 181 (23532)

# ЗВЯЗДА

## У Мінску ўведзены нормы водпуску прадуктаў харчавання

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў прэс-цэнтры Мінгарвыканкама, у сталіцы з 10 верасня зноў пачалі дзейнічаць нормы водпуску прадуктаў харчавання.**

Так, сёння ва ўсіх дзяржаўных магазінах аднаму пакупніку прадаюць не болей як 2 кг мясных і каўбасных вырабаў, не болей 2 адзінак птушкі, кансерваў — 2 бляшанкі, малака — 2 літры, тварагу — 0,5 кг, смятаны — 0,5 кг, сыроў цвёрдых, масла — 0,4 кг, алею — 1 літр, хлеба, мукі, цукру — 2 кг, круп — па кілаграму 3 сартоў, макаронных вырабаў — 2 кг, тытунёвых вырабаў — 5 пачкаў, яек — 2 дзесяткі. Па меркаванню спецыялістаў гарадскога гандлю, становішча ў гэтай сферы павінна нармалізавацца ўжо праз 2-3 тыдні.

## Тарыфы на бытавыя паслугі застаюцца ранейшымі

**«У верасні тарыфы на бытавыя паслугі звыш двух працэнтаў павялічвацца не будуць», — заявіў карэспандэнту «Звязды» начальнік упраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва Мінгарвыканкама Аляксандр Коўшэр.**

Гэтае дазволенае павелічэнне на прадпрыемствах ужо адбылося — дзе першага, дзе трэцяга верасня. На працягу месяца цэны на бытавыя паслугі больш не зменяцца. Што датычыць, у прыватнасці, кастрычніка, дык тут сітуацыя пакуль цьмяная. Відавочна, што пэўных зрухаў у цэнавай палітыцы пазбегнуць не ўдасца, але якімі будуць гэтыя паказчыкі — у межах усё тых жа двух працэнтаў ці крыху больш — сказаць ніхто не бярэцца. Як удалося даведацца карэспандэнту «Звязды», зараз вядзецца аналіз усіх даных, і спецыялісты не выключаюць, што ў наступным месяцы бытавыя паслугі могуць падаражэць больш чым звычайна. Праўда, ужо зараз усе сцвярджаюць, што значнага падаражання не будзе.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### *Увага!*

### «ЗВЯЗДА» АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС СЯРОД ЧЫТАЧОЎ

***Адгукніцеся тыя, хто на хвалі нядаўняга ажыятажнага попыту на многія тавары нечакана для самога сябе набыў зусім непатрэбную ў гаспадарцы рэч***

Не ведаю як хто, але асабіста я гляджу зараз на пустыя паліцы магазінаў, дзе некалі стаяла бытавая тэхніка, ляжалі дываны, іншыя тавары, ды і ўвогуле на тое, што рабілася з людзьмі, з неўразуменнем. Вядома, любыя катаклізмы ў жыцці грамадства ці сваім асабістым выклікаюць у кожным чалавеку інтуітыўнае, падсвядомае жаданне падстрахавацца. Хтосьці супакойваецца, уклаўшы наяўнасць у СКВ, нехта лепшым выйсцем лічыць пакупку мяха-другога мукі ці цукру.

Апошнім часам практычна ўсе мы — хто непасрэдна, хто толькі ў думках — аказаліся ўцягнутымі ў «хапун». Балазе, усё гэта ўжо скончылася. Не будзем асуджаць нікога, даваць усім аднолькавыя азначэнні. Магчыма, нехта і так даўно збіраўся набыць у кватэру ці хату новы тэлевізар, халадзільнік, дыван, і апошнія падзеі толькі супалі з планамі і паскорылі факт набыцця такой жаданай рэчы. Не будзем чапаць харчовых запасаў, якімі б вялікімі яны ні былі. У рэшце рэшт, мука, алей, цукар, крупы не прападуць, усё пойдзе на сямейны стол. Але цяпер ёсць час уздыхнуць з палёгкай (грошы, калі яны былі, ужо пайшлі на тавар, а ў магазінах ужо новыя цэны, ды і будучая зарплата цяпер няскора), яшчэ раз уважліва агледзець пакупкі. Ці ўсе яны вам так патрэбны і ці трэба было ўсё тое хапаць? Былі ж і чэргі за эмаліраванымі вёдрамі, кухонным посудам і іншым, прычым кожны пакупнік імкнуўся ўзяць тавару як мага болей — колькі дазволена было браць аднаму чалавеку.

Рэдакцыя «Звязды» аб'яўляе конкурс на самую непатрэбную ці няўдалую пакупку ў мінулыя дні. Мы не збіраемся гэтым нікога прыніжаць. Магчыма, вы ўжо і самі зразумелі, што зрабілі глупства, і цяпер пасмейваецеся з сябе. Няхай ваш няўдалы вопыт укладання сродкаў стане добрай навукай на будучае іншым, гэткай своеасаблівай школай спажыўца.

Пры жаданні, рэдакцыя забяспечыць ананімнасць тых, хто адгукнецца на наш конкурс. Тэлефануйце нам, калі ласка, па нумары 268-27-41, альбо дасылайце лісты з паметкай «Не баліць галава ад прыбытку?» Дарэчы, ніякіх прызоў за ўдзел у конкурсе мы не абяцаем. Узнагародай для ўдзельнікаў стане змяшчэнне на старонках газеты самых цікавых аповядаў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### *Усміхнёмся!*

**Тры каўбоі скачуць па прэрыі. У іх на дарозе глыбокі роў.**

Біл кажа:

— *Каўбой я ці не каўбой?*

Разгон, скачок — недаляцеў... .

Боб:

— *Каўбой я ці не каўбой?*

Скочыў — і таксама зваліўся ў бездань.

Джо:

— *Каўбой я ці не каўбой?*

Прышпорыў каня, узяў добры разгон. І раптам ля самага краю рова конь рэзка спыняецца і кажа:

— *Ты каўбой — ты і скачы.*

—Як гаспадар скажа, так і будзе!

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## У ПАМЕЖЖЫ БЕНЗІН І ДЫЗПАЛІВА БЕЗ ЛІМІТУ — ТОЛЬКІ БЕЛАРУСАМ

**Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», дзяржаўны канцэрн «Белнафтахім» даслаў у прыгранічныя вобласці — Брэсцкую і Гомельскую — афіцыйную тэлеграму з патрабаваннем абмежаваць водпуск нафтапрадуктаў транзітным аўтаперавозчыкам і прыватным аўтаўладальнікам.**

Генеральны дырэктар гомельскай аблнафтабазы Фёдар Кісарэнка пацвердзіў гэтую інфармацыю, удакладніўшы, што ліміт для транзітных машын складае: для легкавіка — 20 літраў бензіну, для грузавіка — 100 літраў дызпаліва. Па словах Фёдара Рыгоравіча, мера гэта вымушаная і накіравана яна найперш на абарону айчынных спажыўцоў. «Бывалі выпадкі, калі суседзі на аўтамабілях бралі за адзін раз па 500 літраў паліва, заліваючы яго куды толькі магчыма». Як заўважыў спадар Кісарэнка, уведзеныя абмежаванні ніякім чынам не звязаны з магчымым дэфіцытам нафтапрадуктаў. Па яго словах, ліміт не закрануў і айчыннага спажыўца — ім запраўляюць столькі паліва, колькі апошнім патрэбна. «Увогуле, мы можам рэалізоўваць па тысячы тон дызпаліва ў тыдзень». На думку генеральнага дырэктара аблнафтабазы, абмежаванні на водпуск нафтапрадуктаў для транзітнікаў будуць дзейнічаць да таго часу, пакуль курсы валют як у нас, так і ў Расіі не стабілізуюцца.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## УРАД БЕЛАРУСІ ПРЫМАЕ МЕРЫ ДЛЯ ТАГО, КАБ НАСЕЛЬНІЦТВА КРАІНЫ БЫЛО ЗАБЯСПЕЧАНА ЎСІМ НЕАБХОДНЫМ

**У Расіі лютуе жорсткі фінансавы шторм, яго хвалі пагражаюць захліснуць і тыя дзяржавы, якія маюць з ёй цесныя эканамічныя сувязі. На шчасце, Беларусь першыя крутыя хвалі гэтага шторму вытрымала: не дала збояў фінансавая сістэма рэспублікі, трымаецца спажывецкі рынак. Што абумовіла нашу ўстойлівасць? На гэта і шэраг іншых пытанняў карэспандэнт БЕЛТА папрасіла адказаць намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Леаніда КОЗІКА.**

— Галоўнае, што дало магчымасць захаваць устойлівасць эканомікі рэспублікі і яе спажывецкага рынку, заключаецца ў той палітыцы, якую праводзіць прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, — сказаў Леанід Пятровіч. — Урад, выконваючы ўказанні кіраўніка дзяржавы, будуе сваю работу на падтрымцы рэальнага сектара эканомікі. Вызначаюцца асноўныя напрамкі выкарыстання бюджэтных сродкаў і развіцця вытворчасці.

У Расійскай жа Федэрацыі зрабілі ўпор на так званую манетарную палітыку, палічыўшы, што трэба займацца толькі грашовым абарачэннем. Калі ў дзяржавы не стала хапаць грошай, пачалі выпускаць каштоўныя паперы, на якія ўстанаўліваліся высокія стаўкі, што было вельмі прывабным. Некаторыя на гэтым добра зарабілі. Але ў выніку, калі рухнуў рынак каштоўных папер, большасць суб'ектаў гаспадарання гэтай краіны страцілі свае сродкі. Акрамя таго, у Расіі ніхто не займаўся рэальным сектарам эканомікі. Многія прадпрыемствы не змаглі, як кажуць, «устаяць на плаву». Пры гэтым накопліваліся даўгі па заработнай плаце, а сям-там ужо і забылі, што трэба разлічвацца з людзьмі.

Такая палітыка неаказання дапамогі ўласнаму вытворцу прывяла да таго, што прадпрыемствы пачалі спыняцца. Там не было і гаворкі аб якімсьці пашыраным узнаўленні. У Беларусі ж, наадварот, планы сацыяльна-эканамічнага развіцця, прынятыя кіраўніцтвам краіны, накіроўваліся на падтрымку рэальнага сектара эканомікі. У выніку нам удалося ўтрымаць прамысловае сельскагаспадарчае прадпрыемства. Вядома, гэта патрабавала ўкладання сродкаў, але мы так і будавалі свой бюджэт, каб аказваць падтрымку айчыннаму вытворцу.

**— Значная частка насельніцтва нашай краіны, ведаючы аб тым, што ў расійскіх магазінах апусцелі паліцы, знаходзіцца ў трывожным чаканні: маўляў, ці не перакінецца гэта «эпідэмія» і да нас? Хтосьці ўжо пачынае панікаваць, набываць прадукты ў запас, купляць усё запар, баючыся інфляцыі. Леанід Пятровіч, ці абгрунтаваная гэта трывога людзей? Ці хопіць у краіне запасаў прадуктаў харчавання і тавараў шырокага спажывання, каб перажыць неспакойны час? Ці не плануюцца закупкі прадуктаў харчавання за мяжой, улічваючы сёлетні недабор ураджаю?**

— Павінен запэўніць, што прычын для трывогі няма. У рэспубліцы будзе сабрана ў гэтым годзе больш як пяць мільёнаў тон збожжа, гэта значыць тая колькасць, якая неабходна для народнай гаспадаркі краіны. Сабралі б больш, але перашкодзілі дрэнныя ўмовы надвор'я. Будзе закуплена і частка збожжа за мяжой, але такога, якое ў нас цяжка вырасціць — высакаякасных гатункаў, неабходных для выпечкі кандытарскіх вырабаў, белага хлеба. Дарэчы, у гэтым годзе былі павялічаны пасяўныя плошчы гэтых культур, асабліва ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях, дзе ўмовы надвор'я даюць магчымасць вырошчваць такую пшаніцу. Да гэтага трэба дадаць, што ў нас яшчэ засталося 130 тысяч тон збожжа жыта мінулагодняга ўраджаю. Іх не зрасходавалі — збожжа хапала.

У гэтым годзе вырашчаны добры ўраджай бульбы, цукровых буракоў. Дарэчы, што датычыць цукру, то ў рэспубліцы яго прададзена ў тры разы больш, чым у мінулым годзе. І сёння ўжо завезена 27 тысяч тон. Хачу сказаць, што ў краіне штогод робіцца закладка асноўных відаў прадукцыі. Сёлета яе аб'ём будзе павялічаны больш чым на 20 працэнтаў. Назаву лічбы. У мінулым годзе, напрыклад, масла было закладзена 5,5 тысячы тон. У магазінах з ім перабояў не было, хоць прадукт у нейкай ступені і вывозіўся. У гэтым годзе плануецца назапасіць больш чым 9 тысяч тон. З іх 6,6 ужо закладзена на захоўванне. Такім чынам, сваю патрэбнасць, безумоўна, мы забяспечым.

Акрамя таго, павялічаны запасы тварагу, сухога малака, сыроў — прадукцыі, якая пастаянна патрэбна як нашым перапрацоўчым прадпрыемствам, так і для рэалізацыі ў гандлі.

Гэтак жа вызначаны квоты і на пастаўку тавараў шырокага спажывання. Гэта халадзільнікі і тэлевізары, адзенне і дываны, іншая прадукцыя. Яны даведзены да кожнага прадпрыемства. Таму хваляваціся няма чаго. Нам не трэба закупляць за мяжой ні тавары народнага спажывання, ні прадметы працяглага карыстання, ні прадукты харчавання.

Але ва ўмовах, калі ўзнік ажыятажны попыт і людзі пачалі рабіць запасы, мы проста вымушаны прыняць меры. Абмежаваны водпуск тавару ў адны рукі і дадзена ўказанне гандлю пастаўляць у магазіны прадукцыі столькі, колькі яе пастаўлялася штодзённа ў апошнія два месяцы.

**(Заканчэнне на 2-стар.).**

## БЕЛАРУСКІ РУБЕЛЬ АДСТУПАЕ ЦІ НАСТУПАЕ?..

### СКУПКА USD НА ЦЕНЯВЫМ БАНКНОТНЫМ РЫНКУ Ў ПАНЯДЗЕЛАК АЖЫЦЦЯЎЛЯЛАСЯ ПА 84-85 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ

На мінулым тыдні знаёмы бізнесмен, які вядзе свае справы ў Маскве, расказаў пра ўласную «драму»: падчас фінансавага крызісу на рынках Расіі, у адрозненне ад некаторых сваіх паплечнікаў, яму не ўдалося павялічыць капітал. Разгубіўся. Больш рызыкоўныя людзі амаль што падвоілі сваё багацце: хто скідваў валюту ў разгар панікі, атрымліваў крыху больш за 20 рублёў за адзін USD. Цяпер жа, маўляў, максімальны курс продажу наяўнага долара складае каля дванаццаці з паловай рублёў. Між тым, на Маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржы таксама адчуваецца рублёвае «пацяпленне». Долар там «пахудзеў» у пятніцу больш чым на рубель, а ўчора яго вартасць склала раніцай ужо 8.90 рубля. У сувязі з апошнімі падзеямі ў Расіі, многія аналітыкі выказваюць надзею, што сітуацыя стабілізуецца і самае страшнае для эканомікі суседняй краіны скончылася.

Праўда, гэта не аднадушнае меркаванне. У адрозненне ад эканамістаў, якія ўпэўнены ў тым, што курс расійскага рубля ўмацуецца і застыне на 10—12 рублях за долар, некаторыя эксперты больш песімістычныя ў сваіх ацэнках. Так, напрыклад, некаторыя з беларускіх фінансістаў адзначаюць, што стабілізацыя ў Расіі — вынік валютнай інтэрвенцыі напярэдадні выбрання Віктара Чарнамырдзіна (зараз ужо Яўгена Прымакова) на пасаду прэм'ер-міністра. Зразумела, што прымусовая тэрапія рубля ў будучым пагражае яго ж абвалам. Аднак драматызаваць такія выказванні схільныя не ўсе, маўляў, гэтыя сцвярджэнні з'яўляюцца адной з версій на развіццё сітуацыі.

Пэўныя станоўчыя змены адбываліся (дакладней — працягвалі адбывацца) і на валютным рынку Беларусі напрыканцы тыдня. Адрэагаваўшы на падзенне курса долара ў вялікай суседкі, долар больш прыстойна паводзіць сябе і ў нашай рэспубліцы. У пятніцу ў чарговы раз змяніліся каціроўкі на пазабіржавым рынку: USD каціраваўся па 120—150 тысяч рублёў за долар. Схамянуліся і валютныя мянялы на «чорным рынку». Курс скупкі USD, які яшчэ раніцай у пятніцу трымаўся на 85 тысячах, пасля абеду складаў ужо 81—83 тысячы рублёў за долар. Аднак з продажам долара па больш прыстойнаму курсу на ценявым банкнотным рынку напярэдадні выхадных таксама не спяшаліся. Тлумачылі гэты факт валютчыкі наяўнасцю вялікай колькасці беларускіх рублёў. Такім чынам, на «чорным рынку» тады курс продажу складаў 90 тысяч рублёў за долар. Пачатак гэтага тыдня палёгкі рублю, на жаль, не прынёс. На ценявым банкнотным рынку валютчыкі ў залежнасці ад сумы прапанаванай валюты скуплялі USD ад 84 да 85 тысяч рублёў. У тым выпадку, калі вёўся продаж валюты, то ён ажыццяўляўся па курсу ад 90 да 93 тысяч рублёў за долар. Аднак гэта зусім не выключае магчымасці лёгкага падзення курса продажу наяўнай валюты. Іншая рэч, што істотным яно ўжо не будзе. Беларускія фінансісты, якія згаджаюцца на нейкія прагнозы, прытрымліваюцца думкі, што працэс падзення вартасці долара на завяршальнай стадыі. І чакаюць далейшага развіцця падзей у Расіі і ўплыву новых лічбаў «мінімалкі» на валютны рынак краіны.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

**КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 14 ВЕРАСНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)**

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (017)** | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 63900 | 64000 | 37880 | 38000 | 2680 | 4370 | 222-0750 |
| Пріорбанк | 63500 | 65000 | 37700 | 38500 | 3000 | 4200 | 245-5721 |
| Белпрамбудбанк | 64000 | 65000 | 37000 | 38600 | 4000 | 4440 | 233-2110 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 51400 | | 30189.12 | | 4400 | | Курс на 15.09.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | | | | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

**Да ўвагі чытачоў!**

**Падпіска на «Звязду» на IV квартал прадоўжана да 18 верасня ўключна**

### *Настольны тэніс*

### Уладзімір Самсонаў — першая «ракетка» свету

Першая «ракетка» свету, беларускі майстар настольнага тэнісу Уладзімір Самсонаў, у чарговы раз пацвердзіў свой клас. Выступаючы нядаўна на прэстыжным міжнародным турніры «Юропіэн мастэрз кап» у нямецкім гарадку Ален, мінчанін на падступах да п'едэстала спачатку абыграў вопытнага немца Йорга Раскопфа ў трох сетах, а ў фінале — уладальніка Кубка свету бельгійца Жан-Мішэля Сэва — 21:17, 21:15, 21:9.

Спаборніцтвы, якія прайшлі ў Германіі, па рангу ўступаюць толькі чэмпіянатам свету і Алімпійскім гульням.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 443

### Аб вызваленні сельскагаспадарчых прадпрыемстваў ад выплаты падаткаў у частцы бязвыплатна атрыманых матэрыяльна-тэхнічных і фінансавых сродкаў

У мэтах аказання дапамогі сельскагаспадарчым прадпрыемствам у правядзенні сезонных сельскагаспадарчых работ, будаўніцтве жылых памяшканняў, рамонце тэхнікі *п а с т а н а ў л я ю:*

Вызваліць калгасы, саўгасы, іншыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, сялянскія (фермерскія) гаспадаркі ад выплаты падаткаў у частцы бязвыплатна атрыманых (у парадку аказання дапамогі) матэрыяльна-тэхнічных і фінансавых сродкаў пры ўмове накіравання гэтых сродкаў на развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці. Сродкі, выкарыстаныя не па мэтаваму прызначэнню, падлягаюць падаткаабкладанню ва ўстаноўленым парадку.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

*11 верасня 1998 г. г.Мінск.*

## У ШТАРМАВОЕ НАДВОР'Е ШТУРВАЛ ТРЭБА ТРЫМАЦЬ У РУКАХ АСАБЛІВА МОЦНА

Такую думку адносна крызісных з'яў у эканоміках Беларусі і Расіі 14 верасня ў ходзе сустрэчы са старшынёй Дзяржсавета Удмурцкай Рэспублікі Расійскай Федэрацыі Аляксандрам Волкавым выказаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

«За некалькі апошніх дзён нам удалося стабілізаваць сітуацыю ў рэспубліцы, — сказаў кіраўнік беларускай дзяржавы. — Прыняты эфектыўныя меры. Галоўнае — мы не страцілі рычагоў кіравання эканомікай».

Аляксандр Лукашэнка катэгарычна абверг чуткі аб тым, што беларуска-расійская граніца будзе «закрыта» для патоку тавараў, што ідуць у суседнюю краіну. «Нам выгадна гандляваць з Расіяй, — сказаў прэзідэнт. — Аднак цяпер мы ўпарадкоўваем эканамічныя адносіны з нашым суседам. Для жулікаў граніца будзе сапраўды закрыта».

На думку Аляксандра Волкава, палітыка, якую праводзіць кіраўніцтва Беларусі па ўмацаванню сувязяў паміж краінамі СНД — «самая правільная ў цяперашніх умовах». Старшыня Дзяржсавета Удмурціі выказаў упэўненасць, што пагадненне, якое будзе падпісана паміж Беларуссю і Удмурцкай Рэспублікай 15 верасня, стане яшчэ адным значным крокам ва ўмацаванні палітычных і эканамічных сувязяў на постсавецкай прасторы.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ НАЛАДЖВАЕ ЭКАНАМІЧНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА З УДМУРЦІЯЙ

Пытанні эканамічнага супрацоўніцтва Беларусі з Рэспублікай Удмурція абмяркоўваліся ў час сустрэчы прэм'ер-міністра Сяргея Лінга з афіцыйнай дэлегацыяй гэтага расійскага рэгіёна на чале са старшынёй Дзяржаўнага Савета Аляксандрам Волкавым.

Перад айчыннымі вытворцамі, лічыць кіраўнік беларускага ўрада, стаіць задача ў гэтым годзе пашырыць эканамічнае супрацоўніцтва з расійскімі рэгіёнамі. Цяпер, праўда, назіраецца некаторы спад, выкліканы напружанай сітуацыяй у суседняй дзяржаве. Аднак Сяргей Лінг выказаў надзею, што «праз пэўны прамежак часу двухбаковыя сувязі атрымаюць «другое дыханне».

**БЕЛТА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ВЫКАЗАЎ СПАЧУВАННЕ З ВЫПАДКУ ГІБЕЛІ ІРАНСКІХ ДЫПЛАМАТАЎ

Вестка аб забойстве ў Афганістане іранскіх дыпламатаў глыбокім болем адазвалася ў сэрцах беларускіх грамадзян. Аб гэтым у ходзе сустрэчы 14 верасня з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь Бехзадам Мазахеры заявіў кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка.

«Мы перакананы, што недапушчальныя ніякія дзеянні, якія парушалі б міжнароднае права і канвенцыі па абароне дыпламатаў», — сказаў прэзідэнт Беларусі. Ад імя беларускага народа і ад сябе асабіста Аляксандр Лукашэнка выказаў шчырае спачуванне прэзідэнту і народу Ісламскай Рэспублікі Іран, родным і блізкім загінуўшых.

Кіраўнік іранскай дыпламатычнай місіі ў нашай краіне, у сваю чаргу, падкрэсліў, што блізкасць пазіцый Беларусі і Ірана па многіх палітычных і эканамічных пытаннях дае магчымасць з аптымізмам глядзець у будучыню беларуска-іранскіх адносінаў. У гэтым годзе, паводле слоў пасла, з афіцыйным візітам у Беларусь прыбудзе міністр замежных спраў Ірана. Акрамя таго, прапрацоўваецца магчымасць прыезду ў Мінск кіраўніка іранскага ўрада, паведаміў Бехзад Мазахеры. У час гутаркі прэзідэнт Беларусі і пасол Ірана абмеркавалі шырокае кола пытанняў, якія маюць узаемную цікавасць. Аляксандр Лукашэнка пажадаў іранскаму дыпламату, чый тэрмін знаходжання ў Беларусі падышоў да канца, захаваць аб нашай краіне самыя добрыя ўспаміны. Прэзідэнт выказаў надзею, што пан Мазахеры яшчэ неаднаразова наведае Беларусь у якасці добрага сябра нашай краіны і паважанага госця.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

## ЖНІВО ПРАКТЫЧНА ЗАВЕРШАНА

**Уборачная выходзіць на «фінішную прамую.» Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў аддзеле земляробства і раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, ужо апрацавана 2,2 мільёна гектараў збожжавых і зернебабовых, што складае 96,3 працэнта ад засеянага.**

Практычна завершана жніво на Брэстчыне, Гомельшчыне і Гродзеншчыне — 99 і па 98 працэнтаў адпаведна. Самы нізкі паказчык па-ранейшаму ў Магілёўскай вобласці — 93 працэнты. Гэта нават ніжэй, чым у паўночных рэгіёнах — на Віцебшчыне ўжо ўбраны збожжавыя і зернебабовыя з 95 працэнтаў плошчаў.

Ураджайнасць ў рэспубліцы невысокая — 22,8 цэнтнера з гектара. Самыя нізкі паказчык на Віцебшчыне і Гомельшчыне — 18,1 і 20,7 ц/га адпаведна. Рэкардсменам па ўраджайнасці па-ранейшаму з'яўляецца Гродзенская вобласць — 30,6 ц/га.

Агульны намалот перавысіў 5 мільёнаў тон. Больш за мільён «узялі» на Гродзеншчыне, блізкія да гэтага паказчыка і на Міншчыне. Менш за ўсіх намалацілі ў Віцебскай і Гомельскай абласцях — 685,3 і 686 тысяч тон адпаведна.

Ужо сёння, як лічаць спецыялісты, можна з упэўненасцю казаць, што сёлетняе жніво завершана — засталося ўбраць толькі плошчы з так званым некандыцыйным зернем (тыя, што падлягаюць спісанню). Настаў час спраўляць дажынкі...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ТВОРЧАЯ СПАДЧЫНА АДАМА МІЦКЕВІЧА — НАБЫТАК УСЯГО ЧАЛАВЕЦТВА

Тысячы паклоннікаў творчасці Адама Міцкевіча, прычым не толькі з нашай краіны, але і з Расіі, Украіны, Польшчы і Літвы, прыехалі ў мінулую суботу ў Навагрудак. У гэтым старажытным беларускім горадзе адбылося міжнароднае свята паэзіі, прысвечанае 200-годдзю з дня нараджэння выдатнага паэта-гуманіста. Яно стала ў Беларусі своеасаблівай кульмінацыяй урачыстасцяў у гонар нашага вялікага земляка. Як вядома, сёлетні год па рашэнню ЮНЕСКА аб'яўлены годам Адама Міцкевіча.

Раніцай у навагрудскім касцёле, дзе 200 гадоў таму быў хрышчоны Адам Міцкевіч, адбылася ўрачыстая меса. А своеасаблівым пралогам пачатку паэтычнага свята стаў рытуал ускладання кветак да помніка Адаму Міцкевічу, у якім прынялі ўдзел прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, Старшыня Савета Рэспублікі Павел Шыпук, віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Іван Пашкевіч, члены беларускага ўрада, іншыя афіцыйныя асобы.

Выступаючы на цырымоніі адкрыцця свята, Сяргей Лінг адзначыў, што творчая спадчына Адама Міцкевіча стала набыткам усяго чалавецтва. «Ён вырас на беларускай зямлі, выхоўваўся на польскіх і рускіх культурных традыцыях і кансалідаваў вакол сябе дэмакратычна настроеных прадстаўнікоў шляхецкай інтэлігенцыі — палякаў, беларусаў, рускіх — у іх сумеснай барацьбе за свабоду і роўнасць усіх прыгнечаных народаў, — сказаў прэм'ер-міністр. — Адам Міцкевіч — сын польскага народа і зямлі беларускай. Нам, беларусам, заўсёды была ўласціва глыбокая павага да народных геніяў, асоб з высокімі маральнымі якасцямі незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці або веравызнання».

Наша краіна перажывае складаны перыяд развіцця, для якога характэрна структурная перабудова эканомікі, станаўленне новай дэмакратычнай дзяржаўнай улады і справядлівых сацыяльных адносінаў, падкрэсліў Сяргей Лінг. Зразумела, што гэта стварае некаторыя складанасці ў справе духоўнага адраджэння і культурнага развіцця. Але ўлады нашай краіны, запэўніў прэм'ер-міністр, заўсёды будуць выступаць гарантам працэсу адраджэння і развіцця культурнай спадчыны, захавання нацыянальнай самабытнасці беларусаў, і ніколі ў нашай краіне не будуць пакрыўджаны няўвагай іншыя нацыянальнасці.

Кіраўнік урада нагадаў, што адчуванне духоўнага адзінства з вядомымі прадстаўнікамі рускай культуры і дэмакратычных колаў Расіі заўсёды было ўласціва Адаму Міцкевічу. Аб гэтым сведчаць цёплыя адносіны паэта з рускімі майстрамі слова і грамадскімі дзеячамі. Глыбокія гістарычныя карані мае і беларуска-польскае братэрства. Доўгія гады Польшча была для Беларусі своеасаблівым акном у Еўропу, праз якое да скарбаў сусветнай культуры далучыліся многія праслаўленыя сыны нашай зямлі. Праўда, са шкадаваннем канстатаваў прэм'ер-міністр, апошнім часам культурныя кантакты паміж дзвюма краінамі крыху аслаблі. Але ён выказаў упэўненасць, што ніякая палітычная кан'юнктура не зможа адмоўна паўплываць на чалавечыя адносіны паміж грамадзянамі нашых краін.

«Мы не павінны гэтага дапусціць, і тут вялікая адказнасць ляжыць на ўрадах, — падкрэсліў Сяргей Лінг. — Яны павінны сто разоў адмераць, перш чым прымаць рашэнні, якія непасрэдна адбіваюцца на простых людзях. Мы зрабілі выбар і не звернем са свайго шляху да канчатковага станаўлення суверэннай, шчаслівай, свабоднай Беларусі. Не звернем таму, што ён правераны часам, таму, што яго падтрымлівае беларускі народ, які нарэшце атрымаў поўную магчымасць працаваць на сябе і на будучыню сваёй Бацькаўшчыны. Мы выступаем за роўныя падыходы, за аднолькавыя магчымасці для кожнага народа незалежна ад таго, якое значэнне і месца ён мае ў вачах так званых звышдзяржаў. Мы выступаем супраць палітыкі двайных стандартаў, як раней выступаў супраць яе Міцкевіч-паэт, Міцкевіч-мысліцель, Міцкевіч-палітык. І калі малой радзімай для Адама Міцкевіча, бясспрэчна, была Навагрудская зямля, то яго вялікай радзімай быў еўрапейскі дом. 150 гадоў таму Адам Міцкевіч марыў аб агульным еўрапейскім доме, думаў пра тое, чым будуць заняты розумы і думкі лепшых прадстаўнікоў грамадства на рубяжы XXI стагоддзя, і таму погляды, мары і ідэалы Адама Міцкевіча сёння больш чым актуальныя».

Трэба аддаць належнае членам Нацыянальнага аргкамітэта на чале з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Замяталіным, якія правялі вялікую падрыхтоўчую работу да свята.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## Свята — лепшы помнік паэту

**У мінулую суботу ў Навагрудку адбылося міжнароднае свята паэзіі, прысвечанае 200-годдзю з дня нараджэння нашага славутага земляка Адама Міцкевіча.**

Навагрудак не пазнаць. Цяперашні раённы цэнтр, а колішняя першая сталіца Вялікага княства Літоўскага, змяніўся літаральна за некалькі месяцаў. Пачатак падрыхтоўчых мерапрыемстваў паклаў сваім Указам «Аб святкаванні 200-годдзя з дня нараджэння паэта Адама Міцкевіча» прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Пасля былі прыняты пастановы Савета Міністраў. І пачаліся рамонтна-будаўнічыя работы.

Цэнтральны пляц цяпер выкладзены адмысловай пліткай, адрамантаваны гасцініца, вакзал, кафэ і рэстаран. Можна казаць пра пэўныя недапрацоўкі, але варта памятаць і пра даждлівае надвор'е, якое зусім не спрыяла працы.

Па словах старшыні раённага выканаўчага камітэта Анатоля Ліса, выканана работ прыкладна на 100 мільярдаў рублёў.

Дарэчы, самі навагрудчане прымалі ўдзел у добраўпарадкаванні горада. У тым ліку і дзеці.

... Яшчэ ў пятніцу вяліся рамонтныя работы. Але ўжо ў суботу яны скончыліся.

У 11 гадзін адбылося ўрачыстае адкрыццё свята. Выступілі прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, старшыня райвыканкама Анатоль Ліс, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Някляеў, дырэктар Варшаўскага літаратурнага музея імя Адама Міцкевіча Януш Пенёнжак, дэпутат сейма Літвы Жыбартас Яцкунас, які распавёў пра святкаванне ўгодкаў паэта ў Літве.

У гэты дзень чыталіся вершы, выступалі фальклорныя калектывы, мастакі наладзілі выставу. Шмат мерапрыемстваў праходзіла ў парку, дзе найбольш уразіла свята вясковых падворкаў з адметным навагрудскім інтэр'ерам і стравамі, у тым ліку і з самагонам.

Увечары на Замкавай гары адбыўся гала-канцэрт айчынных артыстаў эстрады. І на заканчэнне — вельмі эфектны феерверк.

Гэта афіцыйная хроніка. Свята ж — хутчэй настрой.

Шмат у каго я пытаўся:

— Што значыць для вас свята Міцкевіча?

— Пра Міцкевіча я чуў з дзяцінства, як і ўсе жыхары Навагрудчыны, — разважаў супрацоўнік мясцовага лячэбна-працоўнага прафілакторыя Люцыян Цвірко. — У школе чытаў вершы, а з часам паэт ператварыўся ў нейкі сімвал нашай зямлі. Клопатаў у людзей шмат, а вось для свята часу не хапае. Сёння я сустрэў многіх сяброў дзяцінства. І калі шчыра мы больш гаворым пра свае справы, прыгадваем цікавыя выпадкі. Каб не свята, невядома калі б здарылася такая нагода.

Прыкладна так разважалі большасць суразмоўцаў.

Я — не выключэнне. Сустрэўся з землякамі, з раднёй. Мы шпацыравалі па родным горадзе. Было весела і ўтульна. Было святочна. Дзякуючы Адаму Міцкевічу і тым, хто пра яго памятае.

**Міхал ТАЛОЧКА.**

## Буйныя затрыманні на мяжы ёсць, але інфармацыя пра іх мае пакуль закрыты службовы характар

**Менавіта так адказалі на Магілёўскай мытні на пытанне карэспандэнта «Звязды» аб абстаноўцы на беларуска-расійскай мяжы.**

Усе буйныя затрыманні, дадаў начальнік аддзела дзяжурнай службы і інфармавання насельніцтва Іван Дзяменцьеў, адбываліся на аўтамабільных дарогах. Праверкі грамадзян і іх грузаў на маршрутах цягнікоў групай супрацоўнікаў мытні асаблівых вынікаў не далі: гэта дробязі ў параўнанні з велікагрузнымі аўтамабілямі.

Дарэчы, акрамя непапулярнасці расійскай валюты і размытых працяглымі летнімі дажджамі аб'язных дарог на мяжы, ёсць яшчэ адна прычына спынення патоку «чаўнакоў»: губернатарам Смаленскай вобласці ў аднабаковым парадку была ўведзена плата для ўсіх замежных аўтамабіляў за карыстанне дарогамі і ў экалагічны фонд. Для легкавых машын гэты ўзнос складае каля 60 долараў, а прыкладна столькі ж складала нядаўна сума прыбытку, які меў з паездкі ў Расію з таварам сярэдні «чаўнок». Таму бар'ер не толькі для гандляроў, але і для звычайных візіцёраў з Беларусі Смаленская вобласць увяла досыць адчувальны.

На Магілёўскай мытні таксама падкрэсліваюць, што пасля публікацыі Дэкрэта Прэзідэнта «Аб неадкладных мерах па абароне спажывецкага рынку» і азнаямлення грамадзян з даволі жорсткімі мерамі супраць несанкцыяніраванага вывазу прадуктаў харчавання з краіны актыўнасць на ўсходняй мяжы рэзка знізілася.

**Ілона ІВАНОВА.**

## УРАД БЕЛАРУСІ ПРЫМАЕ МЕРЫ ДЛЯ ТАГО, КАБ НАСЕЛЬНІЦТВА КРАІНЫ БЫЛО ЗАБЯСПЕЧАНА ЎСІМ НЕАБХОДНЫМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**— Леанід Пятровіч, сёння ўзнікла яшчэ адна актуальная праблема — цэны. Ці не ўзрастуць яны ва ўмовах ажыятажнага попыту на многія тавары? Якой будзе дзяржаўная палітыка ў гэтым пытанні?**

— Цяпер урад вымушаны рэгуляваць і цэнаўтварэнне. У нас былі трохмесячныя запасы замежнай прадукцыі: рысу, грэчкі, алею. Іх раскупілі па старых цэнах. Але расійскі рубель «упаў» і камерсанты «гнуць» новыя цэны. Таму на прадукты, якія завозяцца з-за межаў рэспублікі, а гэта абмежаваны пералік, прынята рашэнне ўстанаўліваць цану з улікам закупкі і транспарціроўкі гэтага тавару. Але для таго, каб цэны не былі завышаны, устанаўліваецца вельмі жорсткі кантроль. Аж да пазбаўлення ліцэнзій.

Што датычыць цэн на ўнутраную прадукцыю, то тут абвалу мы не дапусцім. У той жа час, напрыклад, цэны на такія тавары, як халадзільнікі і тэлевізары, мы адпусцілі. Іх кошт павялічыўся прыкладна на 30 працэнтаў.

**— Мы пастаянна чуем аб шматлікіх спробах несанкцыяніраванага вывазу беларускіх тавараў за мяжу. Якія меры прымаюцца ў Беларусі для абароны свайго спажывецкага рынку? І наколькі трывалая гэта абарона?**

— Так, мы вымушаны абмежаваць вываз нашай прадукцыі. Прыняты дэкрэт прэзідэнта Беларусі аб неадкладных мерах па абароне спажывецкага рынку. Ён не прадугледжвае забарону на экспарт. Але несанкцыяніраваны вываз будзе абкладацца штрафамі, адміністрацыйным пакараннем. На граніцы і з Расійскай Федэрацыяй, і з Украінай мы разгарнулі мытныя пасты. Аднак у тых, хто пастаўляў вырабленую прадукцыю па заключаных раней кантрактах і дагаворах, перашкод для гэтага не будзе. А вось тыя, хто скупіў у гандлі, на базах або ўкраў, будзе спынены і пакараны. Дарэчы, меры па абароне ўнутранага рынку не супярэчаць нашым дамоўленасцям у рамках мытнага саюза. Такія часовыя дзеянні прадугледжаны пагадненнем аб гэтым саюзе. Не ўзнікне перашкод і для прадукцыі, вырабленай і вырашчанай на асабістых падвор'ях. Сельсаветы заўсёды выдадуць адпаведную даведку.

**— Не сакрэт, што ў нашай краіне адчуваецца недахват валюты для закупак многіх неабходных тавараў і прадуктаў па імпарту. У гэтых умовах стаўка — на беларускіх вытворцаў. Што робіць дзяржава для іх падтрымкі?**

— Валюты ніколі не хапала, каб шыкарна жыць. Валюту, што атрымліваем, мы накіроўваем на аплату энерганосьбітаў, асабліва напярэдадні зімы, на набыццё лякарстваў і іншыя актуальныя патрэбы. Траціць валюту на закупку, напрыклад, алею або цукру, у дзяржавы магчымасці пакуль няма. Мы чакаем добрага ўраджаю цукровых буракоў і з 15 кастрычніка ўсе нашы пяць цукровых заводаў пачнуць працаваць. У той жа час прыняты меры, каб прадпрыемствы, у першую чаргу тыя, якія пастаўляюць прадукцыю на экспарт, не спыніліся. Для іх мінімізаваны ўсе абмежаванні. Больш таго, зняты абмежаванні і на бартэр. Калі расіянам няма чым плаціць — значыць трэба забраць у іх сыравіну і матэрыялы, каб наша вытворчасць працягвала дзейнічаць.

**— Многія беларускія прадпрыемствы набываюць матэрыялы і сыравіну за мяжой. Купляць іх неабходна за валюту. У цяперашніх умовах гэта пытанне праблематычнае. Што робіць урад, каб вырашыць гэту праблему і дапамагчы айчыннаму вытворцу?**

—І ў гэтым напрамку зроблены пэўны крок. Прадпрыемства 40 працэнтаў атрымліваемай валюты павінна абавязкова прадаць дзяржаве. Цяпер прынята рашэнне аб тым, што з 60 працэнтаў, якія засталіся, частку валюты можна прадаць Нацыянальнаму банку па дагаворнаму курсу. Думаю, што курс гэты будзе даволі выгадным для гэтых прадпрыемстваў.

У заключэнне хачу яшчэ раз падкрэсліць, што для трывогі няма ніякіх прычын. Прэзідэнт Беларусі даручыў ураду забяспечыць нармальнае функцыянаванне народнай гаспадаркі, работу спажывецкага рынку і забеспячэнне насельніцтва ўсім неабходным. І гэта выконваецца. Мы спадзяёмся, што ў Расійскай Федэрацыі сітуацыя ўсё ж стабілізуецца і знікне неабходнасць у тых неадкладных мерах, якія прыняты. У нас ёсць магчымасць нармальна працаваць, нармальна жыць і, зыходзячы з магчымасцяў, аказваць дапамогу расіянам.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## «Прымакоў паказвае, хто ў доме гаспадар»

«Новы прэм'ер-міністр Расіі Яўген Прымакоў паказаў свой аўтарытэт у краіне, якая перажывае цяжкасці. Не прайшло і двух дзён пасля яго зацвярджэння, як ён склікаў сваіх самых уплывовых міністраў у непрыгожую, падобную на скрыню штаб-кватэру знешняй разведкі на ўскраіне Масквы.

Ён зрабіў беспрэцэдэнтны крок, запрасіўшы на такую сустрэчу ў выхадныя дні міністраў абароны і ўнутраных спраў, а таксама кіраўніка контрразведкі. Ніякіх дэталей аб пытаннях, якія абмяркоўваліся, не вядома. Аднак што б ні абмяркоўвалі так званыя «сілавікі», сама сустрэча заклікана наглядна паказаць краіне, хто цяпер кіруе справамі.

Зразумела, што кіруе не прэзідэнт Ельцын. Яго аўтарытэт рухнуў разам з рублём і эканомікай.

**«Дэйлі тэлеграф» (Вялікабрытанія).**

**Уладзімір ВЯЛІЧКА:**

# «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА» — ЗА ГРАМАДСТВА ПЕРАДАВЫХ ТЭХНАЛОГІЙ І ВЫСОКАЙ ДУХОЎНАСЦІ»

***«Беларуская думка» — часопіс з такой выразнай назвай калісьці з'яўляўся знаёмым усёй Беларусі афіцыйным выданнем «Коммунист Белоруссии». За гады, звязаныя з перайменаваннем, змяніўся і твар, і шмат яшчэ якія «габарыты» часопіса. Пра «Беларускую думку» сёння і пойдзе наша размова з яе галоўным рэдактарам — кандыдатам філасофскіх навук Уладзімірам Паўлавічам ВЯЛІЧКАМ.***

**— Ваша ўнутрырэдакцыйная канцэпцыя «Беларускай думкі», ваша бачанне тых аспектаў грамадскага і сацыяльнага жыцця, якія падштурхоўваюць да існавання самога часопіса, яго неабходнасці на шматмерным рынку айчынных СМІ?**

— Калі ў нас была адзіная і вялікая краіна, усе канцэпцыі, мадэлі — усё гэта існавала як фарміруючая аснова там, у Маскве. Была цэльная, строга адладжаная сістэма. Адна толькі Акадэмія грамадскіх навук пры ЦК КПСС які велізарны патэнцыял мела. Усе ідэі следам прыстасоўваліся да нашых умоў. Калі развалілася краіна — усё як быццам раптоўна знікла. Мы апынуліся на скрыжаванні дарог. Партыі, што пачалі расці нібы тыя грыбы пасля дажджу, сфера грамадскага, палітычнага жыцця напоўнілася пустой, дэструктыўнай рыторыкай. І ніякага пазітывізму, ніякага выразнага акцэнту на збор, фарміраванне здаровага асэнсавання падзей, фарміраванне перспектыў блізкага заўтра.

І тады мы задумаліся, што краіна павінна мець элітарны часопіс, дзе генерыраваліся б новыя ідэі, які аб'ядноўваў бы патрыятычна настроеную нацыянальную інтэлігенцыю. Такі лёс і выпаў на часопіс «Беларуская думка», які з разуменнем сваёй задачы вырас і ў памерах — з 6 да 20 друкаваных аркушаў.

**— У першым нумары фактычна новага выдання, «тоўстага», скажам так, часопіса са зваротам да чытачоў выступіў прэзідэнт краіны...**

— Хутчэй, гэта быў зварот да тых сіл, што крынічна могуць, маглі б сілкаваць часопіс. Важнейшым канцэптуальным накірункам з той пары і з'яўляецца ў нас генерацыя новых ідэй. Гэта што датычыцца і філасофіі, і эканомікі, і праваэнаўства, і гістарычных аспектаў, і пытанняў маралі, якая, між іншым, пагадзіцеся, перажывае мацнейшы крызіс. Стараемся, каб у часопісе чытач знаходзіў нешта і для душы — друкуем літаратурныя творы, пішам пра выяўленчае мастацтва.

**— На каго, дарэчы, разлічаны часопіс, як вы вызначаеце адрас часопіса?**

— «Беларуская думка» разлічана на адукаванага чытача. Часопіс стаў настольнай кнігай кіруючых кадраў...

**— Мне давялося гутарыць пра часопіс з адным са старшынь райвыканкамаў. Ён, як мне падаецца, шчыра заўважыў, што «Беларуская думка» абуджае, падштурхоўвае да самаадукацыі, у многім сама з'яўляецца палітычным, грамадазнаўчым падручнікам.**

— Не залежваецца наш часопіс і ў бібліятэках — кожны нумар літаральна зачытваецца.

Цікавасць чытачоў, мы ў гэтым перакананы, выклікае наш актыўны, сумесны з Адміністрацыяй Прэзідэнта, пошук, выпрацоўка ідэальнай беларускай дзяржаўнасці. Мы шукаем тую нацыянальную ідэю, якая ўказала б шляхі і напрамкі далейшага развіцця суверэннай дзяржавы.

**— І плён вашых пошукаў?**

— Ідэалогія павінна быць зразумелай для народа. Многа зараз спрэчак вакол гэтага. Ёсць адзін варыянт, ёсць другі... Спрачаюцца і наконт таго, а ці варта ўвогуле гаварыць пра інтэргацыйную ідэалогію, пра нацыянальную ідэю. І хаця ў нас шматнацыянальная краіна, варта і гаварыць, і настойліва шукаць.

Вось у 9-м нумары «Беларускай думкі» змешчана вялікая падборка матэрыялаў, прысвечаных развіццю грамадскіх навук. Поруч з іншымі выступае вядомы вучоны-філосаф Юрый Харын. Ён вядзе размову пра сучасную моладзь. Цікавыя вынікі сацыялагічнага апытання прыводзяцца ў артыкуле. Што да бачання маладымі людзьмі перспектыў развіцця, то толькі 0,7 працэнта апытаных выказаліся за сацыялістычную ідэю, 7 працэнтаў — за капіталістычную. Але ж яшчэ амаль 93 працэнты засталіся? Што ім? Усё «да лямпачкі», відаць...

Усё геніяльнае проста. Мне падаецца, што самая лепшая мадэль грамадскага ўладкавання — грамадства перадавых тэхналогій і высокай духоўнасці. Да гэтага падводзіць і практыка. Быў нядаўна ў СКП «Кастрычнік» Гродзенскага раёна. Гаспадарку ўзначальвае Віталь Крамко. Чаму ў «Кастрычніку» самыя высокія ўраджаі? Тэхналогія і высокая культура — вось два асноўныя накірункі жыццядзейнасці ў «Кастрычніку».

**— Уладзімір Паўлавіч, сярод кніг, вылучаных сёлета на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, і работа складзеная з публікацый вашага часопіса...**

— Так, «Беларусь маладая»... Напісалі мы яе ўтрох. Разам са мною над кнігай працавалі Васіль Шырко і Уладзімір Глушакоў. Калі мае публікацыі ў асноўным пра выбар шляхоў развіцця Беларусі, то Васіль Шырко расказвае ў сваіх нарысах пра работу райвыканкамаў, пра кіраўнікоў новай фармацыі. Уладзімір Глушакоў прадстаўляе чытачу вострасюжэтную публіцыстыку, якой імкнецца абудзіць чалавека ў чалавеку. Словам, «Беларусь маладая» — наша памкненне асэнсаваць сённяшні час, самыя апошнія гады ў жыцці краіны. На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь артыкулы вылучаны грамадскасцю Зэльвенскага раёна.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.41 | 19.28 | 12.47 |
| Віцебск – | 6.30 | 19.19 | 12.49 |
| Магілёў – | 6.31 | 19.17 | 12.46 |
| Гомель – | 6.31 | 19.11 | 12.40 |
| Гродна – | 6.58 | 19.40 | 12.42 |
| Брэст – | 6.59 | 19.42 | 12.43 |

### МЕСЯЦ

**Апошняя квадра 13 верасня.**
***З 11.56 — 25-ыя месяцавыя суткі.***
***Месяц — у сузор'і Рака.***

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Антона, Багдана, Івана, Фядоса.**
**К. Марыі, Альбіны, Нікадзіма.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 6—11 м/сек., месцамі парывы да 15—20 м/сек. Тэмпература паветра ў Гомелі — 16—18, Мінску, Магілёве, Віцебску — 14—16, Гродне і Брэсце — 13—15 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 16-га — на большай частцы тэрыторыі, 17-га — месцамі дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 5—10 м/сек., парывы — да 14 м/сек. Тэмпература ўначы — 6—11, удзень — 13—18 градусаў вышэй нуля.





***МОДА***

# НАТУРАЛЬНАЕ І ШТУЧНАЕ: БАРАЦЬБА І АДЗІНСТВА

Здаецца, ніколі яшчэ мода так не шалела. Макіяж, здаралася, быў яркім. Але настолькі...

Сёння прадстаўніцам чароўнай паловы няма патрэбы ламаць галаву, якім ценям аддаць перавагу: сінім ці фіялетавым. І тыя і другія можна нанесці адначасова. Але зусім не так, як вы падумалі: са стандартнымі плаўнымі пераходамі аднаго колеру ў другі. Усё нашмат прасцей. На левае павека наносьце сінюю фарбу, на правае — фіялетавую. Ці наадварот. Зрэшты, прыхільніцы традыцыйнага макіяжу вачэй могуць не адмаўляцца ад яго. Толькі варта выкарыстоўваць цёмныя фарбы халоднага спектра: зялёную, сінюю, фіялетавую. Карычневыя цені таксама ідуць у ход. Але на іх наносяць блікі белымі бліскучымі ценямі ці ўвогуле «рассыпаюць» крапінкі чорным алоўкам. Форму вачам надаюць міндалепадобную, выдзяляючы іх чорнай падводкай.

Звычайна, калі акцэнтуюцца вочы, то ў цяні застаюцца вусны, і наадварот. Сёння ўсё інакш. Вусны цяпер таксама «крычаць». Мала таго, што ў касметычцы ўпэўнена займаюць месца чырвоная і слівовая памады, дык яны яшчэ і змагаюцца за права быць нанесенымі. Зрэшты, сучасная модніца знойдзе кампраміс і афарбуе верхнюю губу чырвонай, а ніжнюю — слівовай. Ці яшчэ што прыдумае: двума колерамі ўпрыгожыць два бакі роту. Хіба што румяны ў такім макіяжы неагрэсіўныя. Бровы ж і вейкі фарбуюцца чорным, без усякіх выбрыкаў.

Хаця, прашу прабачэння, без выбрыкаў і тут не абышлося. Канцы веек падфарбоўваюць белай тушшу, так што недасведчаны чалавек падумае, што перажытае вамі пасерабрыла сівізной не скроні, а вейкі. Праўда, падобнае абыходжанне з фарбамі дапушчальнае толькі ў празрыстым, бледным макіяжы, які з'явіўся як альтэрнатыва расфарбоўцы «баявога індзейца». Бледнатварыя прыгажуні нібыта сышлі з палот-



наў вялікіх мастакоў. Белымі румянамі высвятляюцца выступаючыя часткі твару. Бровы ператвараюцца ў нітку, а то і ўвогуле знікаюць пад слоем белай фарбы. Ледзь не смяротная бледнасць твару адцяняецца насычаным ненатуральным колерам валасоў. Якія бландзінкі ды брунеткі? Наперадзе яркія, неверагодныя фарбы. Калі шкада эксперыментаваць з уласнымі валасамі, мяняючы іх колер на ружовы, чырвоны ці медны, можна набыць парык. Зрэшты, размеркаванне па ўсёй галаве ярка-рыжых ці пунсовых пасмаў некаторым жанчынам здаецца больш цікавым.

Бадай адзінае, што амаль не здзіўляе сёння, дык гэта прычоскі. Прыхільніцы валасоў натуральнага колеру збіраюць іх у акуратныя падшпіленыя, туга закручаныя валікі, заплятаюць у дзіцячыя коскі. Хаця іншы раз «здараецца» неахайнасць: то з прычоскі выпадзе пасма, то прабор «аказваецца» зігзагам. Коскі перахопліваюць чорнымі аптэчнымі гумкамі, а непаслухмяныя віхры «супакойваюць» металічнымі заколкамі, шпількамі, абручамі. Прамыя доўгія валасы часцей носяць на прабор, а канцы іх робяць няроўнымі, зноў жа «неакуратнымі». Прычоскі з доўгімі цяжкімі чубкамі наступаюць ужо больш энергічна.

Хаця ёсць і тут адхіленні. Я ж казала: прычоскі амаль не здзіўляюць. Гладкая, «залізаная» прычоска «конскі хвост» упрыгожваецца намаляванымі на скронях і патыліцы белымі вензелямі. А на чырвоных нядоўгіх валасах робіцца неверагодна пышная дробная хімія. Іншага параўнання як з дзмухаўцом ці ягнём, у галаву не прыходзіць.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**



## АБМЕЖАВАННІ ПА ВЫВАЗУ ПРАДУКТАЎ ДАТЫЧАЦЦА ТОЛЬКІ БУЙНЫХ ПАРТЫЙ ХАРЧОВЫХ ТАВАРАЎ

**Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» памочнік старшыні мытнага камітэта Беларусі Сяргей Сметаннікаў, мытных пастоў з Расіяй у Беларусі няма. Абмежаванні па вывазу харчовых тавараў за мяжу краіны датычацца толькі суб'ектаў гаспадарання.**

Яны, у прыватнасці павінны мець дакумент-дазвол ад абласных упраўленняў Мінсельгасхарчу.

Што датычыцца фізічных асоб, то яны маюць права перавозіць за мяжу краіны прадукты харчавання для ўласнага спажывання. Калі грамадзянін паспрабуе вывезці за мяжу краіны 40 палак каўбасы ці 50 кілаграмаў плаўленых сыркоў, то відавочна, што гэтымі прадуктамі ён потым будзе гандляваць. У гэтым выпадку такія прадпрымальнікі на мяжы з Расіяй затрымліваюцца кампетэнтнымі органамі.

Спецыяльнага пераліку тавараў, у якім гаворыцца аб тым, якія харчовыя тавары і ў якой колькасці магчыма вывозіць з Беларусі ў Расію, а якія -- не, у мытным камітэце няма.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## У ПАМЯЦЬ АБ ВЫДАТНЫМ ВУЧОНЫМ

**Да свайго 75-годдзя, якое адзначаецца гэтымі днямі, вядомы беларускі мовазнаўца, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук, заслужаны дзеяч навукі Беларусі Мікалай Васільевіч Бірыла, на вялікі жаль, не дажыў. Але засталася памяць аб ім — светлая і ўдзячная, як і само жыццё вучонага.**

У Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН рэспублікі адбыліся лінгвістычныя чытанні, прысвечаныя М. Бірылу. Іх адкрыў дырэктар інстытута акадэмік Аляксандр Падлужны. Навуковую спадчыну Мікалая Васільевіча прааналізавалі і падзяліліся ўспамінамі аб ім член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Аркадзь Жураўскі, доктар навук з Польшчы Эльжбета Смулкава, доктар філалагічных навук Валянціна Лемцюгова, кандыдаты навук Іван Германовіч і Ганна Усціновіч.

Мяркуецца, што да канца гэтага года выйдзе ў свет навуковы зборнік, прысвечаны памяці акадэміка М. Бірылы.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## СЁННЯ ГРОШЫ, ЗАЎТРА — ЗДЫМКІ

**Менавіта па такому прынцыпу працуе зараз большасць міні-фоталабараторый, якія праяўляюць фотаплёнкі і друкуюць здымкі.**

Калі раней аплату за паслугі можна было праводзіць па ўласнаму жаданню або адразу, або пасля атрымання заказу, дык зараз дзяўчаты, што працуюць у мінілабараторыях, ветліва, але цвёрда нагадваюць кожнаму кліенту: «Грошы трэба плаціць зараз». У тых жа месцах, дзе такога патрабавання няма, аб падзеях у краіне красамоўна нагадваюць аб'явы: «Аплата за паслугі праводзіцца па расцэнках, якія дзейнічаюць на момант выдачы заказу». Дарэчы, асартымент імпартных каляровых фотаплёнак, іншых адпаведных тавараў істотна скараціўся ў сталіцы яшчэ тыдні тры таму. Становішча практычна не змянілася і зараз — былога багацця выбару няма. Зразумела, не засталіся на месцы і цэны на імпартныя фотатавары. Напрыклад, адна і тая ж фотаплёнка падаражэла з 275 да 360 тысяч рублёў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*Зацверджана Сходам акцыянераў*
*АКБ «Беларускі Біржавы Банк»*
*Пратакол № 3 ад 07.09.1998 г.*



## Змяненні ў Кароткую інфармацыю аб дадатковай падпісцы на акцыі АКБ «Беларускі Біржавы Банк»

**(Кароткая інфармацыя апублікавана ў газеце «Звязда» 19 мая 1998 г. № 104 (23455)**

**П. 8 выкласці ў наступнай рэдакцыі:**

**8. Выпускаецца 25.500.000 (дваццаць пяць мільёнаў пяцьсот тысяч) простых імянных акцый намінальным коштам 1.680 (адна тысяча шэсцьсот восемдзесят) рублёў на агульную суму 42.840.000.000 (сорак два мільярды восемсот сорак мільёнаў) рублёў, з якіх 12.700.000 (дванаццаць мільёнаў семсот тысяч) акцый распаўсюдзіць шляхам адкрытай падпіскі, а 12.800.000 (дванаццаць мільёнаў восемсот тысяч) акцый выпусціць за кошт накіравання часткі прыбытку 1997-98 гг. на павелічэнне статутнага фонду. Дадаткова выпускаемыя акцыі размеркаваць паміж акцыянерамі I—IV эмісіі прапарцыянальна іх долям у статутным фондзе.**

| | |
|---|---|
| **Дырэктар АКБ «Беларускі Біржавы Банк»** | **Дзік П. В.** |
| **Галоўны бухгалтар** | **Сянько В. І.** |

***Змяненні ў Кароткую інфармацыю заверавы 11 верасня 1998 г. старшынёй Дзяржаўнага камітэта па каштоўных паперах В. М. Шухно.***

### ТЭЛЕЛОЦЫЯ

***Спецыялісты-моваведы сведчаць: у кожнага дыктара і вядучага БТ ёсць моўныя памылкі. У адных болей, у другіх меней. Але агульная карціна несуцяшальная. Атрымліваецца, тэлебачанне, якое прызначана служыць узорам культуры маўлення, само з'яўляецца непісьменным?***

**Марыя КАРПОВІЧ:**

# «НА ТЭЛЕБАЧАННІ ВЫНАЙШЛІ СРОДАК АД ДЫФТЭРЫІ. ЦІ НЕ ДАПАМОЖА ЁН ВЫЛЕЧЫЦЬ МОЎНУЮ ХВАРОБУ?»

***Мы гутарым з кандыдатам філалагічных навук, дацэнтам кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання факультэта журналістыкі БДУ Марыяй КАРПОВІЧ:***

— Слова «непісьменнае» ўсё ж лакінем у гісторыі, калі мае бацькі распісваліся крыжыкамі. Проста пагаворым аб прафесійным маўленні. На тэлебачанні якраз нестае маўленчага прафесіяналізму. Прызнаюць гэта на БТ літаральна ўсе — ад кіраўнікоў да журналістаў. Дзеці ў школе і тыя заўважылі: настаўнікі вучаць так, а па тэлевізару гавораць зусім інакш.

Прычыны непаразуменняў паміж гледачамі і тэлебачаннем, на маю думку, ёсць аб'ектыўныя і суб'ектыўныя. Аб'ектыўныя: працэс адраджэння беларускай мовы хоць і марудна, але ідзе. З'явіліся варыянтныя канчаткі, адроджаныя і народжаныя словы, словаўтваральныя формы. Суб'ектыўныя прычыны — шмат хто з тэлежурналістаў не ведае правілаў беларускай граматыкі, арфаэпіі (нават тых, што аніяк не закранула і не закране моўнае адраджэнне). У кожным вячэрнім выпуску «Панарамы» я налічваю ад 20 да 40 парушэнняў літаратурнай нормы. Гэтая інфармацыйная праграма і раздражняе тэлегледача больш за ўсе астатнія. Як-ніяк, яна ды яшчэ «Рэзананс» — візітныя карткі беларускага тэлеканала.

**— Але, спадзяюся, тая колькасць памылак не дзеліцца пароўну паміж АТНаўцамі. Ёсць жа сярод іх і падрыхтаваныя людзі?**

— А што з таго, калі падрыхтаваны вядучы памыліўся, скажам, два разы, а ўся праграма — дваццаць? Ацэньваць трэба каманду, як гэта прынята ў дзелавых людзей. (І, дарэчы, у «Радыёфакце»). Няхай спадар Казіятка ўзгадае сваю «бяседу» з госцем праграмы «Сення з вамі...», які працуе ў «Макдональдсе». Як ён, вядучы, дамагаўся, каб той назваў свае прафесійныя вартасці, а ў адказ пачуў: у нас не прынята гаварыць пра асабістыя якасці, у нас ацэньваецца каманда. А ў «Панараме»? Адзін з такіх падрыхтаваных, аддамо яму належнае, прамовіў: «Творчая брыгада і я, Сяргей Яскевіч, развітваемся з вамі». Атрымліваецца, што галоўны вядучы не ўваходзіць у брыгаду. А павінен быць «брыгадзірам». І свае сапраўды добрыя моўныя веды («выдатна» паставім, калі не будзе казаць «разгледжванне пад іншым ракурсам» замест «разгледжванне ў іншым ракурсе») даводзіць да кожнага панарамаўца.

**— Можа, гэта звышпатрабаванне да вядучага?**

— Для мяне вядучы на тэлебачанні, ва ўсіх праграмах, — гэта Асоба. Творчая. Гэта «народны артыст». Бо яму выпаў гонар штодня гаварыць перад народам усяе рэспублікі. А за такі вялікі гонар ён абавязаны плаціць людзям прафесіяналізмам. А не псіхалагічным дыскамфортам, спароджаным слоўцамі накшталт «застраліў», «выбяжаў»,»для сабе», «для эканоміцы». Ды ці іх пералічыш! У мяне мех папер з запісамі падобных «наватвораў». Вядучыя «Панарамы» пакуль што выступаюць у ролі чытальнікаў: чытаюць тэксты, падрыхтаваныя для іх, з манітора. Калі часам даводзіцца ім адарвацца на адзін сказ ад электроннага суфлёра — адразу пайшла «трасянка». Я не бачу адрознення ролі вядучага ад той, якую дагэтуль выконвалі дыктары, дый няблага. Дарэчы, дыктары і зараз трымаюць вышэйшы ўзровень, але да ўзорнага маўлення і ім далёка. Хаця Галіну Рудакову па моўным майстэрстве можна параўноўваць з расійскімі калегамі.

Прафесіяналізм вядучага... Ніхто яшчэ так таленавіта не раскрыў гэты сакрэт, як Яўген Смірноў, былы дыктар Усесаюзнага радыё, затым вядучы тэлевізійнай праграмы «Время». У інтэрв'ю «Общей газете» ён узгадвае, як «выдворяли» з Саюза Аляксандра Салжаніцына. Галоўны рэдактар праграмы «уж на что партийный и резкий человек был, — піша Смірноў, — меня так обнял и говорит: «Женя, я тебя очень прошу, «выдвори» этого человека уважительно к нему». А кабета адна прызналася ў пісьме, што калі чуе голас Смірнова, дык адразу на каханне з мужам яе цягне. На жаль, у нашых вядучых іншая школа. Яны і сустракаюць, і выпраўляюць адной інтанацыяй. А што да кахання — дык сваёй мовай згасяць усялякую патэнцыю — і фізічную, і разумовую. Маю на ўвазе і тых, хто вядзе тэматычныя блокі «Панарамы». Няхай не крыўдуюць на мяне за такую ацэнку, а думаюць, як падняць наш глядацкі імпэт.

**— На БТ ужо колькі гадоў існуюць курсы павышэння кваліфікацыі. Вы выкладчык гэтых курсаў. Ці вырашаюць яны, на вашу думку, хоць неяк моўную праблему?**

— Курсам 25 гадоў. Апошнія 17 кіруе імі філолаг Галіна Гумен. Пры ўсіх яе добрых якасцях і пры ўсёй маей адданасці справе нашу праблему курсы вырашаюць менавіта НЕЯК. У гэтым годзе наведвальнікі вучыліся без адрыву ад працы. А гэта азначае, што ў аўдыторыі 3—5 чалавек — і ніводнага з АТН. Увогуле, зацікаўленасці ў занятках у супрацоўнікаў не адчуваецца. Хаця тыя, хто аднойчы-двойчы іх наведаў, прызналі іх карысць для сябе несумненную.

**— Пакуль што мы толькі канстатуем негатыўнае моўнае становішча. Давайце пагаворым, як можна яго выправіць.**

— Сёлета на на тэлебачанні вынайшлі дзейсны сродак супраць дыфтэрыі — нявыплата прэміяльных, пакуль не зробіш процідыфтэрыйную прышчэпку. Дык вось: калі б аналагічныя прышчэпкі рабілі за моўныя памылкі, то праз тыдзень-другі не пачулі б мы ні «газапровада», ні «ільна», ні «валавага», ні «Алексія ІІ», ні «Вялікдзеня», што ідуць з перадачы ў перадачу, замест: «газаправода», «ільну», «валавога», «Аляксія ІІ», «Вялікадня».

Другі сродак — абавязковае беларускамоўнае асяроддзе (хаця б на працы) для тых, хто выходзіць у эфір. Яго ж абсалютна няма. Яно толькі ў крэсле і перад суфлёрам. А трэба так: пераступіў парог тэлевізійнага будынка — гавары па-беларуску. Пакуль гэтага не будзе, дык штодня і мы, тэлегледачы, і яны, тэлевядучыя, — усе разам будзем мець лыжку дзёгцю ў бочцы інфармацыйнага мёду.

Пакуль што моўная праблема на БТ вырашаецца касметычна, а не на добры вынік: нейкую заўвагу адзін аднаму зробяць ды разам пасмяюцца. А моўнай дысцыпліны няма. У адрозненне ад таго ж РТР. Я ніколі не забуду, як Святлана Сарокіна, калі яшчэ працавала ў праграме «Вести», звярнуўшыся да гледачоў, папрасіла прабачэння за свайго калегу, які напярэдадні не да месца выкарыстаў слова «минималка». (Ну дзе вы чулі, каб хоць адзін наш вядучы перапрасіў за зробленую памылку?) Пры тым што ў расіян, па нашым меркаванні, па-сапраўднаму прафесійнае маўленне і вядучых, і каманды.

**— Да таго ж гады два таму быў створаны Савет па рускай мове пры прэзідэнце Расійскай Федэрацыі...**

— Чым займаецца гэты Савет у Расіі, я не зусім уяўляю. У Беларусі працы б яму хапіла. А паколькі падобнай структуры ў нас няма, дык дзяржаўная тэлерадыёкампанія і павінна стаць цэнтрам ДЗЯРЖАЎНАГА клопату аб культуры маўлення ў Беларусі. Пазбаўляліся б ад «трасянкі» ды «таракамаўкі» (тарашкевіцы і наркамаўкі) тэлерадыёканалы, а разам з імі і мова народа. Такога згвалчанага двухмоўя, як у нас, нідзе ў свеце больш няма. Я дагэтуль не разумею, дзеля каго русіфікавалі ў 30-я гады беларускую мову. Няўжо спадзяваліся, што ў Маскве кінуцца яе вывучаць?

**— А як вы ацэньваеце рускамоўную культуру на БТ?**

— Вось як: падыходзіць журналістка да арэнбургскага губернатара і кажа: «Здесь всплЫла праблема...» А з праблемай, як бачыце, «всплыла» і моўная культура спадарыні. Вядучы ж «Рэзананса» сочыць за рускамоўнай нормай, затое парушае іншыя нормы — у інфармацыйна-публіцыстычны стыль прыцягвае зніжаную лексіку. Са святам 8 Сакавіка віншуе жанчын у кантэксце «расстёгнутой ширинки американского президента». Лексічнае «жабрацтва» на тэлебачанні — тэма асобнай гутаркі. Як і моўнае шалупінне, якое ідзе ў эфір з афіцыйных крыніц і не правіцца, бо нашалупілі чыноўнікі высокіх рангаў. То ў іх павысіўся «рэальны рост узроўню жыцця», то «рост рэальнага ўзроўню жыцця». А мова енчыць ад такой бессэнсоўнасці.

Яшчэ горш, калі, беручы інтэрв'ю ў нейкага кіраўніка, журналіст БТ пачынае паўтараць моўныя памылкі таго, хоць сам дагэтуль казаў правільна. Атрымліваецца, што, падладжваючыся пад суразмоўцу, ён ахвяруе мовай, а гэта вельмі заганна. Часам здараецца і так: госць студыі размаўляе на рускай мове, і вядучы, які гутарыў спачатку па-беларуску, хутка збіваецца на «трасянку».

**— Мы пачыналі размову з «Панарамы» — сур'ёзнай перадачы для дарослых. Але чысціню моўнага асяроддзя заўтрашняга дня ў многім вызначаюць праграмы для самых маленькіх...**

— Вы маеце рацыю. Калі ўзяць «Калыханку», дык было б някепска, каб журналісты БТ загаварылі па-беларуску так прыгожа...

«Звяздоўцы» таксама ў гэтым сэнсе людзі грэшныя. Вось пачнеце змагацца з суфіксам «іраваць» (бо пішаце «сфарміраваць» замест «сфармаваць», «рэпрэсіраваць», замест «рэпрэсаваць» і гэтак далей); пакінеце ўжываць наркамаўскія «намеціць» (сустрэчу), «устанавіць» (норму), «у сувязі», замяніўшы іх на сапраўды беларускія «прызначыць», «вызначыць», «у звязку» — тады паглядзім.

**Вядучы рубрыкі**
**Цімур ХІЛЬКЕВІЧ.**

**Уладзімір КУПРЫЕНКА:**

# «КАЛІ МАЛАДЫ ТВАР БТ «ПААБРАСЦЕ БАРАДОЙ», З ВУСНАЎ ЯГО ПАЛЬЕЦЦА ПРАВІЛЬНАЯ, МІЛАГУЧНАЯ МОВА»

***Каб пачуць каментарый, а таксама зірнуць на моўную сітуацыю на нацыянальным канале вачыма аднаго з яго кіраўнікоў, мы сустрэліся з намеснікам старшыні Белтэлерадыёкампаніі Уладзімірам КУПРЫЕНКАМ:***

— Дыктара або вядучага перадачы я заўсёды параўноўваю з музыкантам, які грае на нейкім інструменце. Для таго, каб рабіць гэта адмыслова, музыка павінен спачатку асвоіць нотную грамату, атрымаць пэўныя прафесійныя навыкі, доўга рэпеціраваць. Толькі тады прыйдзе сапраўднае майстэрства. (Хоць, заўважу, шмат залежыць і ад Богам дадзенага таленту: нехта вырастае ў маэстра, а нехта застаецца на ўзроўні самадзейнасці.) Так і ў журналістыцы: мова ёсць перш за ўсё рабочы інструмент, які патрабуе дасканалага валодання ім.

На жаль, гэта не ўсім удаецца. Калі мы звернем увагу на ўзровень прафесійнага маўлення ў розных рэдакцыях БТ, дык пабачым, што ён неаднолькавы. Параўнаць хаця б літаратурна-драматычную рэдакцыю, дзе большасць супрацоўнікаў гавораць па-беларуску ў штодзённым жыцці (таму і ляпсусы ў эфіры амаль выключаны), з «эканамістамі» альбо «палітыкамі». У апошніх пакуль не склалася моўнае асяроддзе, і журналіст часам адчувае сябе няёмка, ведаючы свой небагаты беларускі слоўнікавы запас.

**— Папоўніць яго — не надта цяжкая задача.**

— Справа ў іншым. У гэтых рэдакцыях журналісты адзін з адным па-беларуску размаўляюць мала. У асноўным з гасцямі, якія прыходзяць на праграму: з прадстаўнікамі эканамічных і дзяржструктур. А тыя, за рэдкім выключэннем, карыстаюцца мовай рускай. Тады мы вымушаны закадравы тэкст і пытанні вядучага запісваць на беларускай мове, а адказы суразмоўцы — на рускай. І гэта выглядае не вельмі прыгожа.

Апошнім часам БТ пачало прыцягваць да вядзення перадачы не журналістаў, а спецыялістаў у сваёй галіне. Да прыкладу, у праграме «Здароўе» працуе доктар Васільеў. Ён каштоўны для нас як урач-прафесіянал, таму нейкую моўную недакладнасць на дадзеным этапе можна яму прабачыць. Бо ён не памыліцца ў галоўным — у медыцынскай фактуры, тэрміналогіі.

**— А што вы адкажаце на нараканні мовазнаўцаў у адрас «Панарамы»? Усё ж 20—40 памылак штодзень — не дробязь.**

— Сказаць, што гэта нармальна, вядома, не асмелюся. Але такое становішча часовае і мае аб'ектыўныя прычыны. Паглядзіце: да нядаўняга часу «Панараму» вялі прафесійныя дыктары. Іншымі словамі, людзі, якія бездакорна валодалі мовай. Але старэйшае пакаленне неяк раптам пайшло, і ўтварыўся вакуум, які мы вымушаны былі хуценька запаўняць маладымі кадрамі. І тут моцна адбілася іх непадрыхтаванасць да работы ў прамым эфіры. Моладзь бы «абкатаць» перш-наперш у ранішніх ды дзённых выпусках навін, дык не было каму працаваць увечары. Вось і кінулі маладняк «на амбразуру».

**— Але, па словах усё тых жа спецыялістаў, памылкі часцей здараюцца нават не ў вядучых прамога эфіру, а ў рэпартажах, якія выходзяць у запісу.**

— Існуе так званы «рэжым асабліва важных перадач», калі карэспандэнту даецца толькі 5 хвілін на пытанні, пасля чаго «аб'ект» ідзе на пасяджэнне, нараду ці некуды яшчэ. У такой сітуацыі нельга спакойна сесці і паразмаўляць. Таму нават у загадзя падрыхтаваных тэкстах «скачуць» націскі, блытаюцца словы. Але гэта натуральны працэс: «Панарама» ўзняла свой узровень аператыўнасці, што і выклікала павелічэнне колькасці памылак.

**— Ці часта пытанне культуры прафесійнага маўлення ўздымаецца на тэлевізійных планёрках?**

— Пастаянна. Мы аналізуем і асобныя матэрыялы, і цэлыя цыклы праграм з пункту гледжання мовы. Раімся, нешта падказваем калегам. Але калі журналіст робіць два, тры, дзесяць разоў адну і тую ж памылку, то яго проста здымаюць з эфіру, бо чалавек не валодае рабочым інструментам.

**— І такія выпадкі былі?**

— Так. А гэта, між іншым, для вядучага сапраўдная трагедыя. Яшчэ горш, калі журналіст пайшоў, і памірае яго перадача. Таму чалавек, які жадае надоўга затрымацца ў эфіры (мы штогод нанова зацвярджаем усіх дыктараў і вядучых), павінен увесь час практыкавацца. Я ўжо казаў, што на БТ сёння працуе шмат моладзі, і яна добра, нібы губка, усмоктвае ў сябе новыя веды. А вось калі гэты малады твар тэлеканала «абрасце барадой», з вуснаў яго пальецца правільная, прыгожая, мілагучная мова. Пакуль жа ў многіх нашых вядучых акрамя інфармацыйнага матэрыялу, які яны павінны агучыць, ляжыць на стале яшчэ паперка — з іх уласнымі памылкамі. І яны туды ўвесь час зазіраюць, каб у чарговы раз не «наступіць на тыя ж граблі». Гэта смешна, канечне, але неабходна. Бо для ўсяго патрабуецца час.

Калі на пачатку 90-х мы пачыналі актыўна ўкараняць беларускую мову на тэлебачанні, асабліва цяжка было са спартыўнымі каментатарамі. Але мы сказалі тагачасным «мэтрам»: «Не будзе мовы — не будзеце каменціраваць. Мы возьмем моладзь». Праз месяц-другі яны ўжо шпарка размаўлялі па-беларуску, ды такія каленцы выкідвалі, што яшчэ ў слоўніках пашукаць!..

Сёння БТ вяшчае 18 гадзін у суткі, і, на жаль, не хутка прыйдзе той час, калі ўвесь матэрыял будзе беларускім. Таму што няма ў патрэбным нам аб'ёме ні айчыннага кіно, ні мультыплікацыі.

**— Але на Украіне, напрыклад, многія стужкі проста перакладаюць на ўкраінскую мову — тую ж «Санта-Барбару».**

— Мы практыкавалі падобнае некалькі гадоў таму, калі пераагучвалі ў «Калыханцы» мульцікі. Але адна справа, калі перакладаеш мультфільм чэшскі, якога раней ніхто не бачыў. І зусім іншая, калі дэманструеш той, што агучаны Папанавым ці Лявонавым. Іх дубліраваць — значыць губляць тыпаж, пазнавальнасць герояў. У гэтым сэнсе тэлебачанне куды больш складанае, чым, скажам, жывапіс, дзе, як карціну ні падпішаш — па-італьянску, па-руску або па-беларуску, яна ад гэтага нічога не страціць.

**— Уладзімір Пятровіч, скажыце шчыра, вам самому часцей прыходзіцца выслухоўваць пахвалы альбо нараканні ў адрас Беларускага тэлебачання?**

— Я стаўлюся да гэтага па-філасофску: хваліце — дзякуй, крытыкуеце — дзякуй удвая. Бо для мяне няма нічога больш прыемнага, чым бачыць, як патрабаванні тэлегледача растуць разам з каналам. Учора праграма яго задавальняла, але з'явіліся новыя перадачы, і да былых «любімцаў» пачынаюць прад'яўляць прэтэнзіі. Мяне гэта толькі радуе. Мы ж працуем для гледача, і менавіта яму належыць рашаючае слова ў лёсе кожнага з нас, тэлевізіёншчыкаў.

**Вядучы рубрыкі**
**Цімур ХІЛЬКЕВІЧ.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

## Фотаслова

*Госпадзі, гэта мы —*
*такія як ёсць, горкія,*
*хто нарадзіўся пад зоркаю*
*сцюжнай і доўгай зімы.*
*Божухна, гэта мы —*
*простыя і пакутныя,*
*хто сярод плыні атрутныя*
*з гаючае п'е глыбіні.*
*П'е чысціню спрадвечную,*
*хай карані пасечаны,*
*кроны віхурай знявечаны —*
*ды не згібелі мы.*
*Хай без сцягоў і харугваў,*
*у высі Тваёй прамудрай —*
*Божухна, дай надзею,*
*пачуй, што у сэрцах спее.*



# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 36 (154)**


## ЧЕШСКИЕ ФИРМЫ ПРИГЛАШАЮТ К СОТРУДНИЧЕСТВУ

**Если Вас заинтересовало предложение какой-либо фирмы, обращайтесь по тел.(017) 226-24-06(Минск, "ИнформНТЦ") и бесплатно получите интересующую Вас информацию.**

**1. FRANCES a.s.**
Производитель недорогих почтовых конвертов: 110x220 — 0,010 USD, 162x229 — 0,014 USD и др. Широкий ассортимент других конвертов и пакетов.

**2. IU s.r.o.**
Предлагает б/у полиграфические машины (пр-во Чехии): ROMAYOR 314 — от 4000 USD, DOMINANT 714 — от 10 000 USD, DOMINANT 724 — от 20 000 USD, DOMINANT 745 — от 50 000 USD.
Возможна поставка новых полиграфических машин по низким ценам.

**3. JIHOCESKE PIVOVAR a.s.**
Предлагает знаменитое чешское пиво в жест.банках, в бутылках и бочковое. В банках — ПЛАТАН 12%, упаковка 24х0,33 — 4,8 USD за упаковку. В бутылках — ПЛАТАН 10%, упаковка 20х0,5 — 5,4 USD за упаковку.

**4. ZLINER s.r.o.**
Предлагает автобусы городские KAROSA (пр-во Чехия) после кап.ремонта по цене от 14 000 USD, городские и пригородные автобусы IKARUS по цене около 8 500 USD.

**5. COLORLAK a.s.**
Крупнейший производитель лакокрасочной продукции: лаки, краски, эмали, шпатлевки, разбавители, отвердители, пропиточные составы, наливные материалы.
Высокое качество, низкие цены.
Возможен бартер с серьезными химическими предприятиями.

**6. VULKAN a.s.**
Единственный в Чехии производитель латексных товаров широкого потребления: широкий ассортимент презервативов (от 0,036 USD), шарики воздушные (от 0,012 USD), пустышки и соски детские (от 0,12 USD), перчатки медицинские (от 0,035 USD), бытовые (от 0,4 USD), технические (от 0,75 USD), ветеринарные (от 1,0 USD), шапочки для купания (от 0,57 USD), глазные пипетки (от 0,13 USD) и др.

**7. MATE a.s.**
Производитель погрузчиков дизельных 2; 2,5; 3 тонны (от 15 000 USD), погрузочных манипуляторов 2,5 т с подъемом до 6,7 м (от 57 000 USD). Осуществляет продажу погрузчиков BALKANCAR (от 700 USD) и DESTA (от 2 000 USD) б/у после кап.ремонта.

**8. CHODOV**
Производитель изысканной цветной фарфоровой посуды ручной работы. Сервизы чайные, кофейные и др. Вазы, чашки, сахарницы, молочницы, соусницы и мн.др.

**9. G.T. MANDL a.s.**
Предлагает техническую гофрированную бумагу для упаковки промышленных товаров (1 180 USD за тонну).

**10. MODEL OBALY a.s.**
Производитель тары и упаковки из гофрированного картона 250...600 г/м2. Возможно нанесение печати 2-х, 4-х и 5-цветной, тиснение фольгой. Используется для упаковки электронной, стеклянной и керамической продукции.

**11. KEPKA s.r.o.**
Изготовитель овсяных (0,36 USD за 1 кг), пшеничных (0,32 USD за 1 кг), ячневых хлопьев (0,39 USD за 1 кг), крупы перловой (0,25 USD за 1 кг).

**12. EST a.s.**
Широчайшая гамма ручных пистолетов-распылителей лакокрасочных материалов (115 DM). Подвижные распылительные устройства, пеногенераторы, кабины для нанесения порошкообразных лакокрасочных материалов, камерные отверждающие печи, шланги высокого и низкого давления, принадлежности и др.

**13. ALIKA a.s.**
Предлагает разные сорта орехов: арахис (1250 USD за тонну), миндаль, лесные, кешью и др. Сушеные плоды. Разнообразная упаковка. Низкие цены.

**14. ALFA PLASTIK a.s.**
Крупнейший производитель пластиковой тары для мяса (1,5 USD), молока (1,85 USD), пива (2,3 USD), водки (1,75 USD), печенья и хлеба (2,2 USD). Пластиковые косметические флаконы. Широкий ассортимент пластиковых бытовых товаров — ведра, корзины, тазы, сосуды для сыпучих и жидких материалов,мыльницы и т.п.

**15. EKEN**
Производитель котлов для отопления частных жилых домов, общественных и производственных помещений (от 690 USD). Используются дрова и древесные отходы. Экономичны, просты в использовании, совместимы с другими системами отопления.

**16. ЗАВОД ДЕРЕВООБРАБАТЫВАЮЩИХ МАШИН**
Производит широкий ассортимент пилорам (от 40 000 USD), автоматических станков для профилирования полотен, дисков, лент (10 500 USD).

**17. ASONA a.s.**
Предлагает грузовые автомобили AVIA (Чехия) б/у 3-5 лет, после капитального ремонта.
AVIA 30 дизель, 3,3 т, от 7 500 USD;
AVIA 31 дизель, 3,7 т, от 7 600 USD.
Возможен бартер на более старые автомобили.

## «Будпрагрэс-98»

**Вытворчасць будаўнічых матэрыялаў, механізацыя ў будаўніцтве будуць прадстаўлены на выстаўцы пад гэтай назвай.**

Цікавасць патэнцыяльных экспанентаў да яе настолькі быў вялікі, што ўсе выставачныя плошчы былі размеркаваны задоўга да адкрыцця выстаўкі. Сёння «Будпрагрэс», які праводзіцца 6-ты раз, параненйшаму з'яўляецца лідэрам сярод падобных выставак у Беларусі. Пастаянна ў ёй удзельнічаюць не толькі беларускія арганізацыі і прадпрыемствы, якіх большасць, але і фірмы з дзяржаў блізкага і далёкага замежжа. Сёлета — больш за 200 фірмаў з Бельгіі, Германіі, Літвы, Ліхтэнштэйна, Польшчы, Расіі, Швецыі, Фінляндыі, Францыі, Эстоніі і г. д.

На погляд арганізатараў выстаўкі — кампаніі «Мінскэкспо» і Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, галоўная мэта выстаўкі заключаецца ў папулярызацыі новых тэхналогій, абсталявання, матэрыялаў, у пошуку новых партнёраў і заказчыкаў, у абмене вопытам.

Тэматыка выстаўкі даволі шырокая: машыны, сродкі механізацыі, інструмент, будаўнічыя і аддзелачныя матэрыялы, інжынернае абсталяванне, сучаснае праектаванне будынкаў і збудаванняў, цеплазберажэнне і ізаляцыйныя матэрыялы, камунальныя паслугі, аўтаматызаваныя сістэмы кіравання тэхналагічнымі працэсамі.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## Асабістае жыццё

**Аб. 826.** Мінчанка 56 гадоў пазнаёміцца з мужчынам такога ж узросту (55 – 58 гадоў), в/а, без шкодных звычак. *Тэл. (017) 279-37-36 Ларыса. Чакаю.*

**Аб. 827.** Пазнаёмлюся з дзяўчынай да 25 гадоў. Аб сабе: 20/180/80. 220600 г. *Мінск, вул. Кальварыйская 36, п/с 35/23. Шаралаву Сяргею.*

**Аб. 828.** Іван, 180, 38 гадоў. Спадзяюся пазнаёміцца з жанчынай 35 – 42 гадоў для стварэння сям'і. Разведзены. Характар спакойны. Люблю дзяцей. Астатняе пры перапісцы.

**Аб. 829.** Чароўная дзяўчына з Лідчыны чакае свайго свабоднага і чэснага прынца. Аб сабе: Таццяна, 17/168, Казярог.

**Аб. 830.** Энергічны свабодны ўдавец без ш/з і праблем (дзеці дарослыя — асобна) створыць сям'ю з жанчынай 45 – 50 гадоў. *220029, г. Мінск-29, а/с 136.*

**Аб. 831.** Для стварэння сям'і шукаю добрую, сур'ёзную, гаспадарлівую дзяўчыну без шкодных звычак да 28 гадоў, можна дамаседку са Смаргоні ці раёна. Мне 26/178, без шкодных звычак. *231000 Смаргонь, да запатрабавання п/п КН № 0076760.*

**Аб. 832.** Добразычлівы свабодны ўдавец без шкодных звычак, забяспечаны (дзеці дарослыя асобна) пазнаёміцца з жанчынай 47 – 52 гадоў *г. Мінск-29, а/с 136.*

## Прадаецца

■ блокі ФБС. *Тэл. (017) 241-19-42.*
— л/а «Форд-Таурус» 1981 г.в., 1,6 куб. см., растаможаны, у выдатным стане — 1050 у.а. *Тэл. (017) 290-15-08, пасля 19 гадзін.*
■ двухпавярховы катэдж з гаспадарчымі пабудовамі, участак 15 сотак у в. Дзераўная Слонімскага раёна. *Тэл. (297) 73-6-67.*
■ шлюбная сукенка напракат — 40 у.а. *Ашмянскі раён, в. Толмінава. Свірская Марыя.*
■ кватэра двухпакаёвая, агульнай плошчай 47,07, г. п. Мядзел. *Тэл. у Пастаўскім раёне 3-35-74, в. Вярэнькі, Аляксандр.*
■ матацыкл «ІЖ-Планета-3» з каляскай, 1980 г.в., у добрым стане. *Тэл. (297) 99-6-39.*
■ матацыкл «ЯВА- 12V» у выдатным стане. *Тэл. у Шчучыне 3-32-73, з 20 гадзін.*
■ рухавік і КПП да «ВАЗ-2101» (б/к). *Тэл. 2-903-289 у вёсцы Анопаль Мінскага раёна.*
■ «ВАЗ- 2105» 1984 г.в., 1,3 см$^3$, сігналізацыя, магнітола, А-76, абарона крылаў, у выдатным стане, белы — 2350 у.а. *Тэл.(256) 3-43-57.*
■ л/а «ІЖ-комбі» 1986 г.в. у добрым стане. *(215) 5-32-56.*
■ «VW-Дэрбі», 700 у.а., «ВАЗ-21011» на з/ч. *Тэл.(236) 21-680.*
■ кабыла рабочая (6 гадоў) + вупраж, воз і сані. *Карэліцкі раён, в. Малюшычы. Тэл. 27-2-76.*
■ л/а «БМВ-520» 1980 г.в. у добрым стане, растаможаны. Тэл. *(017) 222-33-43 — удзень; 272-64-87 — увечары.*
■ дом у в. Ванелевічы Капыльскага раёна. Сад, калодзеж, 30 сотак. Блізка чыгуначная дарога, можна пад дачу. *Тэл.: (219) 41-3-79; 31-2-00.*
■ «Аудзі-80» 1980 г.в. у добрым стане, бензін 1,6 л, люк, магнітола — 1400 у.а. *Тэл. (295) 2-27-79.*
■ дом у Баранавічах 7х9, 14 сотак, газ, вада, сад, агарод, ці мяняю на кватэру ў Мінску. *Тэл.: (017) 270-56-56; 272-36-60.*
■ «ВАЗ-2101», 1975 г.в. з Германіі, 1200 у.а., або памяняю на трактар «Т-25». *Тэл. 52-4-17, в. Ракаў.*
■ «Вольва-343» 1980 г.в., 2 л бензін, растаможана 100%, у добрым стане, 1400 у.а., торг. *Тэл. 3-36-02 у Валожынскім раёне.*
■ новы кацёл на цвёрдым паліве, 100 у.а., электрапралка. *Тэл. у Вілейскім раёне 76-2-64.*
■ прадаецца л/а «ВАЗ-21058» 1987 г.в. у выдатным стане, колер бэжавы. Званіце, дамовімся. *Тэл. (017) 213-63-30, у Нясвіжскім раёне — (270) 57-616.*
■ легкавы аўтамабіль «Масквіч-2141» 1992 г.в. *Тэл. (257) 24-624.*
■ дом у г. Капылі. *Тэл. (219) 50-4-76.*
■ «ВАЗ-21013» 1982 г.в. 1995 г з Германіі. Цана па дамоўленасці. *Тэл. у г.п. Любча (297) 71-2-90.*
■ тушонка, бульба, жыта, крупы. *Тэл.(017) 251-06-48.*
■ драўляны дом у г. Валожыне з участкам, тэлефонам і пабудовамі плошчай 35 кв. м. *Тэл. у Слуцку 43-3-66.*
■ бульбакапалка, электрамлын, электрапліта «Парма», рухавік Д-50. *Тэл. (8-01792) 55-7-25.*
■ лес апілаваны на зруб 10х7, дошкі 25 мм, кроквы. *Тэл. (293) 43-7-08.*
■ дом у в. Вайнілавічы, 4 км ад Нясвіжа. *Тэл. 5-33-13, увечары.*
■ вуллі для пчол, вокны, ацяпляльны кацёл з воданагравальнікам і батарэямі. *Тэл. 295-11-05.*
■ ванна металічная, новая коштам 3 млн. рублёў. Даўжыня 1,7 м, г. Бабруйск, вул. Пасялковая, д. 42. *Тэл. (02251) 6-21-83.*
■ дом у Баранавічах 77 м$^2$. Усе выгоды, тэлефон, участак 7 сотак, г/пабудовы. *Тэл. (017) 239-75-87.*
■ трактар «Т-25А», капалка, г. Ліда. Цагляная дача і металічны гараж. *г. Жодзіна-3 а/с 16. Тэл.: (275) 2-20-97, 2-56-80.*
■ пакой 12 метраў у трохпакаёвай кватэры р/ц Узда па дагаворнай цане. *Тэл. 244-27-40.*
■ палова новага цаглянага дома ў Слоніме (3 пакоі, кухня, газ, вада), маецца хлеў, гараж, зямельны ўчастак. *Тэл. (297) 2-70-47.*
■ «ГАЗ-24» 1977 г.в., колер чорны, газ-бензін. *Тэл. у г. Вілейцы 46-3-57, пасля 19.00.*
■ інвалідная каляска з ручным прыводам, новая, нядорага. *Тэл. (017) 261-43-66.*
■ драўляны дом у Лагойску (30 км ад Мінска). Маюцца гаспабудовы, тэлефон, водаправод, танна. *Тэл. (274) 55-3-79.*
■ трактар «МТЗ-52», рухавік, задні мост, вал адбору магутнасці ад «МТЗ-80». *Тэл. у Глыбокім (256) 3-90-53.*
■ бульбасаджалка Л-202, навясная чатырохрадная, прычэп да л/а «Зубраня». *Тэл. у Іўі 2-18-79.*
■ жарабя. *Тэл. у Мядзелі 37-1-05.*
■ цялушка цельная ў Лепельскім раёне, в. Баброва. *Тэл. (232) 2-41-60.*
■ дом пад дачу, сад, агарод 15 сотак. Побач лес, возера — у в. Лыгавічы Вілейскага раёна. *Тэл. у Маладзечне 6-48-16.*
■ насценны нямецкі гадзіннік у футляры 1906 г.в. *Тэл. у Маладзечне 6-48-16.*
■ прадаю зруб, два паверхі, 8х10 арыгінальнай канструкцыі (124 кв. м) са сталяркай, танна. *Тэл. у Стоўбцах 47-4-92.*

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**
**Просім аб'явы ў газету «Звязда» дасылаць на беларускай мове. Гэта забяспечыць дакладнасць і хуткасць іх публікацыі.**

## Рознае

■ атынкую гараж — танна, якасна. *Тэл. (017) 273-35-97.*
■ мяняю палову дома ў в. Асінаўка, (3 км ад Смаргоні) 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, Смаргоні, ці прадам. *Тэл. у Смаргоні 36-1-16, пасля 18 гадзін.*
■ мяняю дом пад дачу 6,6х5,3 на аўтамабіль «ГАЗ-53» (дызель, бартавы). *Тэл. (01646) 44-280, пасля 19.00.*
■ аўтамабіль пад заказ з Германіі на працягу 4 дзён. Магчымы сумесны выезд, маю вопыт. *Тэл. (279) 7-36-77.*
■ мяняю дом (10 гадоў) блочна-цагляны (9х11 м) з гаспабудовамі (6х9х2), гараж на л/а ці на трактар, альбо прадам танна. *Тэл. у Шаркаўшчыне 2-10-34.*
■ мяняю 3-пакаёвую кватэру ў Паставах на 2-пакаёвую ў Маладзечне ці Лузе. *Тэл. у Паставах 2-51-97.*
■ мяняю 2-пакаёвую кватэру + гараж + дачны ўчастак + цэгла, тэлефон, зашклёная лоджыя (1-шы паверх 5-павярховага дома ў Петрыкаве) на Гомель. *Тэл. (240) 3-30-07.*

## Куплю

■ мотаблок МТЗ. *Тэл. (017) 276-45-31.*
■ старыя фотаапараты, аб'ектывы, мікраскоп, вайсковую форму (да 1958 г.), значкі. *Тэл. 253-24-41.*
■ аўтамабіль «ТАРПАН» нядорага. *г. Віцебск. Тэл. 33-85-48.*
■ тэстэр «ТТ-1» ці вымяральнік ІТ ад яго. *Тэл. (01633) 5-24-81 з 19.00 да 22.00.*



## ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ** звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь»



*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 25 чэрвеня 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 30 чэрвеня 1998 года*

**Артыкул 1.** Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 4 чэрвеня 1993 года «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1993 г., № 20, арт. 240) змяненні і дапаўненні, выклаўшы яго ў новай рэдакцыі:

**«ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь і дзяржаўных пазабюджэтных фондах**

Гэты Закон вызначае асновы функцыянавання бюджэтнай сістэмы Рэспублікі Беларусь, адносіны паміж рэспубліканскім і мясцовымі бюджэтамі, а таксама бюджэтамі і юрыдычнымі і фізічнымі асобамі па выплаце падаткаў, унясенню іншых абавязковых плацяжоў, іншых паступленняў і выкарыстанню бюджэтных асігнаванняў, устанаўлівае агульныя прынцыпы складання, разгляду, зацвярджэння і выканання бюджэтаў, стварэння і парадку выкарыстання дзяржаўных пазабюджэтных фондаў.

### ГЛАВА 1.
### Агульныя палажэнні

**Артыкул 1. Асноўныя тэрміны і іх азначэнні**

У гэтым Законе выкарыстоўваюцца наступныя асноўныя тэрміны і іх азначэнні:

бюджэт — асноўны фінансавы план фарміравання і выкарыстання грашовых сродкаў для забеспячэння функцый дзяржаўных органаў, эканамічнага і сацыяльнага развіцця Рэспублікі Беларусь або адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак (абласцей, раёнаў, гарадоў, пасёлкаў гарадскога тыпу, сельсаветаў);

вышэйстаячы бюджэт — бюджэт вышэйстаячай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі ў адносінах да бюджэту ніжэйстаячай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі;

ніжэйстаячы бюджэт — бюджэт ніжэйстаячай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі ў адносінах да бюджэту вышэйстаячай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі;

бюджэтнае планаванне — вызначэнне аб'ёму бюджэту, яго даходнай і расходнай частак на аснове прагнозаў паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь і адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак;

бюджэтнае рэгуляванне — пераразмеркаванне бюджэтных рэсурсаў паміж вышэйстаячымі і ніжэйстаячымі бюджэтамі ў мэтах дасягнення іх збалансаванасці;

бюджэтны роспіс — паквартальнае размеркаванне даходаў і расходаў бюджэту, крыніц пакрыцця дэфіцыту бюджэту ў адпаведнасці з бюджэтнай класіфікацыяй;

рэгулюючыя даходы — рэспубліканскія падаткі, што размяркоўваюцца паміж вышэйстаячымі і ніжэйстаячымі бюджэтамі ў мэтах бюджэтнага рэгулявання па нарматывах, якія ўстанаўліваюцца пры зацвярджэнні вышэйстаячага бюджэту;

абароненыя артыкулы — устаноўленыя заканадаўствам артыкулы бягучых расходаў эканамічнай (прадметнай) бюджэтнай класіфікацыі, якія фінансуюцца ў першачарговым парадку і не падлягаюць секвестру або блакіраванню;

секвестр — прапарцыянальнае скарачэнне расходаў па неабароненых артыкулах бюджэту;

блакіраванне — часовае прыпыненне фінансавання па асобных неабароненых артыкулах расходаў бюджэту;

пазыковыя сродкі (пазыкі) — часова запазычаныя сродкі з рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, дзяржаўных пазабюджэтных фондаў, крэдыты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, замежных дзяржаў і банкаў, міжнародных фінансавых арганізацый;

датацыя — грашовыя сродкі, якія выдзяляюцца з вышэйстаячага бюджэту на незваротнай аснове ў выпадку, калі замацаваных і рэгулюючых даходаў недастаткова для збалансавання ніжэйстаячага бюджэту, ці грашовыя сродкі, якія выдзяляюцца юрыдычным асобам для поўнага або частковага пакрыцця страт пры недастатковасці ўласных сродкаў;

субвенцыя — грашовыя сродкі, якія выдзяляюцца з вышэйстаячага бюджэту ніжэйстаячаму бюджэту на канкрэтныя мэты;

субсідыя — грашовыя сродкі, якія прадастаўляюцца вышэйстаячым бюджэтам ніжэйстаячаму бюджэту для выраўноўвання ўзроўню сацыяльна-эканамічнага развіцця адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі або юрыдычным і фізічным асобам у выглядзе дапамогі.

**Артыкул 2. Бюджэтна-фінансавая палітыка**

Бюджэтна-фінансавая палітыка Рэспублікі Беларусь праводзіцца ўзгоднена з грашова-крэдытнай, цэнавай, валютнай і мытнай палітыкай Рэспублікі Беларусь.

Адзінства палітыкі Рэспублікі Беларусь у сферы бюджэтна-фінансавых адносін вызначаецца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Бюджэтна-фінансавая палітыка Рэспублікі Беларусь у адносінах з іншымі дзяржавамі і міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, міжнароднымі дагаворамі і актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 3. Адносіны Рэспублікі Беларусь з іншымі дзяржавамі ў галіне бюджэтна-фінансавай палітыкі**

Рэспубліка Беларусь можа прымаць на сябе абавязацельствы па ўзгадненню бюджэтна-фінансавай палітыкі з іншымі дзяржавамі і міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі ў адпаведнасці з заключанымі дагаворамі.

Рэспубліка Беларусь можа ва ўласных інтарэсах выдзяляць іншым дзяржавам фінансавыя сродкі ў памерах, устаноўленых актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і законам аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год.

### ГЛАВА 2.
### Асновы бюджэтнай будовы

**Артыкул 4. Бюджэтная будова**

Бюджэтная будова — арганізацыя бюджэтнай сістэмы і прынцыпы яе пабудовы.

Бюджэтная будова ў Рэспубліцы Беларусь грунтуецца на прынцыпах адзінства бюджэтнай сістэмы, паўнаты, рэальнасці, галоснасці і самастойнасці ўсіх бюджэтаў, якія ўваходзяць у бюджэтную сістэму Рэспублікі Беларусь, і вызначаецца адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленнем Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 5. Структура бюджэтнай сістэмы**

У бюджэтную сістэму Рэспублікі Беларусь як самастойныя часткі ўключаюцца рэспубліканскі і мясцовыя бюджэты.

**Артыкул 6. Кансалідаваны бюджэт**

Кансалідаваны бюджэт — сукупнасць бюджэтаў Рэспублікі Беларусь або яе адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі.

Бюджэты сельсаветаў, пасёлкаў гарадскога тыпу, гарадоў раённага падпарадкавання, размешчаных на тэрыторыі раёна, і раённы бюджэт складаюць кансалідаваны бюджэт раёна (бюджэт раёна).

Бюджэты раёнаў, гарадоў абласнога падпарадкавання, размешчаных на тэрыторыі вобласці, і абласны бюджэт складаюць кансалідаваны бюджэт вобласці (бюджэт вобласці).

Бюджэты абласцей, горада Мінска і рэспубліканскі бюджэт складаюць кансалідаваны бюджэт Рэспублікі Беларусь (бюджэт рэспублікі).

Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь* і мясцовыя фінансавыя органы штогод складаюць кансалідаваныя бюджэты адпаведна Рэспублікі Беларусь і яе адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак.

**Артыкул 7. Надзвычайны бюджэт**

У выпадку ўвядзення ва ўстаноўленым парадку на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь або ў асобных яе мясцовасцях надзвычайнага становішча на гэтых тэрыторыях можа ўводзіцца надзвычайны бюджэт у адпаведнасці з актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і законамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 8. Адзінства бюджэтнай сістэмы**

Адзінства бюджэтнай сістэмы забяспечваецца адзінай заканадаўчай базай, адзінай формай бюджэтнай дакументацыі, выкарыстаннем адзінай бюджэтнай класіфікацыі, прадстаўленнем неабходнай статыстычнай і бюджэтнай інфармацыі аб рэспубліканскім і мясцовых бюджэтах для складання кансалідаваных бюджэтаў, узгодненымі прынцыпамі бюджэтнага працэсу.

Адзінства бюджэтнай сістэмы заснавана на ўзаемадзеянні бюджэтаў, якое ажыццяўляецца праз выкарыстанне рэгулюючых даходаў, стварэнне мэтавых бюджэтных фондаў, іх частковае пераразмеркаванне.

**Артыкул 9. Паўната бюджэтаў**

Паўната бюджэтаў забяспечваецца ўключэннем у іх усіх падаткаў, вызначаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, іншых абавязковых плацяжоў і іншых паступленняў, а таксама вызначэннем памеру і парадку расходавання грашовых сродкаў.

**Артыкул 10. Рэальнасць бюджэтаў**

Рэальнасць бюджэтаў забяспечваецца фінансаваннем расходаў зыходзячы з аб'ёму рэальна паступаючых даходаў і сродкаў, якія прыцягваюцца для пакрыцця дэфіцыту бюджэту.

**Артыкул 11. Галоснасць бюджэтаў**

Галоснасць бюджэтаў забяспечваецца давядзеннем да грамадзян праз сродкі масавай інфармацыі ходу абмеркавання і прыняцця закона аб бюджэце Рэспублікі Беларусь, рашэнняў мясцовых Саветаў дэпутатаў аб адпаведным мясцовым бюджэце на чарговы фінансавы (бюджэтны) год. Зацверджаныя бюджэты і справаздачы аб іх выкананні публікуюцца ў друку, акрамя звестак, аднесеных да дзяржаўных сакрэтаў у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12. Самастойнасць бюджэтаў**

Рэспубліканскі бюджэт і мясцовыя бюджэты ўсіх узроўняў з'яўляюцца самастойнымі і адлюстроўваюць даходы і расходы, якімі распараджаюцца адпаведныя дзяржаўныя органы.

Самастойнасць бюджэтаў як часткі бюджэтнай сістэмы заключаецца ў тым, што зацвярджэнне рэспубліканскага бюджэту ажыццяўляецца законам Рэспублікі Беларусь, мясцовых бюджэтаў — рашэннямі адпаведных мясцовых Саветаў дэпутатаў, а іх выкананне ўскладаецца на Урад Рэспублікі Беларусь і мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы на аснове бюджэтнага рэгулявання. Самастойнасць бюджэтаў забяспечваецца наяўнасцю ўласных крыніц даходаў і правам адпаведных дзяржаўных органаў самастойна складаць, разглядаць, зацвярджаць і выконваць бюджэт.

**Артыкул 13. Даходы бюджэтаў**

Даходы бюджэту кожнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі фарміруюцца за кошт падаткаў, якія вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, іншых абавязковых плацяжоў, а таксама іншых паступленняў у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Устанаўленне на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэспубліканскіх падаткаў праводзіцца актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і законамі Рэспублікі Беларусь.

Мясцовыя Саветы дэпутатаў маюць права ўстанаўліваць мясцовыя падаткі і іншыя абавязковыя плацяжы, якія залічваюцца ў іх бюджэты, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Да ўласных крыніц даходаў бюджэту адносяцца:

крыніцы даходаў, замацаваныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь за бюджэтам кожнага ўзроўню;

дадатковыя крыніцы даходаў, якія ўстанаўліваюцца самастойна мясцовымі Саветамі дэпутатаў у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У бюджэт могуць паступаць датацыі, субвенцыі, субсідыі, а таксама пазыковыя сродкі.

**Артыкул 14. Расходы бюджэтаў**

Расходы бюджэтаў вызначаюцца праграмамі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь і адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі і ажыццяўляюцца па напрамках і ў памерах, устаноўленых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і рашэннямі мясцовых Саветаў дэпутатаў аб бюджэце на чарговы фінансавы (бюджэтны) год.

У бюджэце на чарговы фінансавы (бюджэтны) год у адпаведнасці з прынятымі раней абавязацельствамі прадугледжваюцца ў поўным аб'ёме асігнаванні на выплату працэнтаў па дзяржаўнаму доўгу, пагашэнне наяўнай у рэспубліканскім бюджэце на дадзены год запазычанасці па дзяржаўнаму доўгу мінулых гадоў з наступіўшым тэрмінам выплаты.

У складзе рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў ствараюцца рэзервовыя і мэтавыя бюджэтныя фонды, сродкі якіх выкарыстоўваюцца па мэтаваму прызначэнню на ажыццяўленне сацыяльных, экалагічных і іншых праграм, ліквідацыю вынікаў стыхійных бедстваў і правядзенне іншых мерапрыемстваў, якія не маглі быць прадугледжаны пры зацвярджэнні бюджэтаў. Парадак фарміравання гэтых фондаў і іх памеры вызначаюцца пры зацвярджэнні бюджэтаў на чарговы фінансавы (бюджэтны) год.

**Артыкул 15. Абаротная касавая наяўнасць**

Звыш прадугледжаных расходаў у рэспубліканскім і мясцовых бюджэтах за кошт астаткаў сродкаў па адпаведных бюджэтах на пачатак плануемага фінансавага (бюджэтнага) года і даходаў бюджэтаў бягучага года ўтвараецца абаротная касавая наяўнасць.

Абаротная касавая наяўнасць на працягу фінансавага (бюджэтнага) года выкарыстоўваецца на пакрыццё часовых касавых разрываў і павінна быць адноўлена да канца гэтага года ў памеры, устаноўленым пры зацвярджэнні бюджэту.

**Артыкул 16. Бюджэтная класіфікацыя**

Бюджэтная класіфікацыя Рэспублікі Беларусь з'яўляецца сістэматызаванай групоўкай даходаў, расходаў і крыніц фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, дзяржаўных пазабюджэтных і бюджэтных мэтавых фондаў, пазабюджэтных сродкаў бюджэтных устаноў і арганізацый з прысваеннем аб'ектам класіфікацыі груповачных кодаў, заснаванай на іх эканамічнай характарыстыцы, і забяспечвае рэспубліканскую і міжнародную супастаўнасць паказчыкаў бюджэтаў, неабходную для адпаведнага аналізу бюджэтна-фінансавай палітыкі дзяржавы.

Бюджэтная класіфікацыя з'яўляецца адзінай і выкарыстоўваецца пры складанні, зацвярджэнні і выкананні рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, дзяржаўных пазабюджэтных і бюджэтных мэтавых фондаў, пазабюджэтных сродкаў бюджэтных устаноў і арганізацый.

**Артыкул 17. Збалансаванасць бюджэтаў**

Збалансаванасць бюджэтаў усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак з'яўляецца неабходнай умовай бюджэтна-фінансавай палітыкі.

Урад Рэспублікі Беларусь, мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы абавязаны прымаць меры па забеспячэнню збалансаванасці адпаведных бюджэтаў і ў працэсе іх выканання рабіць расходы ў межах паступаючых даходаў.

Перавышэнне расходаў над даходамі складае дэфіцыт бюджэту.

Гранічныя памеры дэфіцыту рэспубліканскага бюджэта, бюджэтаў асласцей і горада Мінска ўстанаўліваюцца законам аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год.

Гранічныя памеры дэфіцыту бюджэтаў раёнаў і гарадоў абласнога падпарадкавання вызначаюцца рашэннямі вышэйстаячых мясцовых Саветаў дэпутатаў у межах узроўню дэфіцыту, устаноўленага для бюджэтаў абласцей і горада Мінска, для бюджэтаў гарадоў раённага падпарадкавання, пасёлкаў гарадскога тыпу, сельсаветаў — вышэйстаячымі мясцовымі Саветамі дэпутатаў.

Гранічны памер дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту ўстанаўліваецца ў абсалютнай велічыні або ў працэнтах да валавога ўнутранага прадукту, мясцовых бюджэтаў — у абсалютнай велічыні або ў працэнтах да аб'ёму расходаў бюджэту.

Крыніцы фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту зацвярджаюцца законам аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год, мясцовых бюджэтаў — рашэннямі адпаведных Саветаў дэпутатаў.

Для збалансаванасці даходаў і расходаў мясцовых бюджэтаў могуць выдзяляцца датацыі з вышэйстаячых бюджэтаў.

Пры наяўнасці дэфіцыту бюджэту першачарговаму фінансаванню падлягаюць абароненыя артыкулы бюджэту.

Калі ў працэсе выканання бюджэту адбываецца перавышэнне гранічнага памеру дэфіцыту бюджэту або зніжэнне паступленняў па даходах бюджэту больш чым на 10 працэнтаў ад запланаванага ўзроўню, то прымяняюцца секвестр расходаў па неабароненых артыкулах бюджэту або блакіраванне па асобных артыкулах яго расходаў. У такіх выпадках секвестр або блакіраванне прымяняюцца для рэспубліканскага бюджэту ў парадку, устаноўленым законам аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год, для мясцовых бюджэтаў — рашэннямі мясцовых Саветаў дэпутатаў.

Прынятыя ў ходзе выканання бюджэту рашэнні, якія прыводзяць да памяншэння даходаў або павелічэння расходаў, павінны вызначаць крыніцы фінансавання і прадугледжваць меры па кампенсацыі страт даходаў бюджэту. Не дапускаецца прыняцце рашэнняў, якія вядуць да ўтварэння дэфіцыту бюджэту або павелічэння яго памеру ў адносінах да зацверджанага.

Фінансаванне дэфіцыту бюджэту ажыццяўляецца за кошт дзяржаўных даўгавых абавязацельстваў і мясцовых пазык, крэдытаў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь і іншых крыніц.

Перавышэнне даходаў над расходамі бюджэту складае прафіцыт бюджэту. Рашэнні аб выкарыстанні прафіцыту бюджэту прымаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь або па яго даручэнню Урадам Рэспублікі Беларусь, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 18. Выплата падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў у бюджэт**

Падаткі і іншыя абавязковыя плацяжы, прадугледжаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, уносяцца ў бюджэт юрыдычнымі асобамі, прадпрымальнікамі, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, а таксама грамадзянамі. Плацяжы ў бюджэт пералічваюцца юрыдычнымі асобамі і прадпрымальнікамі, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, у першачарговым парадку ва ўстаноўленыя тэрміны.

Парадак спагнання ў бюджэт не ўнесеных у тэрмін падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

### ГЛАВА 3.
### Асновы бюджэтнага працэсу

**Артыкул 19. Бюджэтны працэс**

Бюджэтны працэс — рэгламентаваная Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, гэтым Законам і іншымі нарматыўнымі актамі дзейнасць дзяржаўных органаў па складанню, разгляду, зацвярджэнню і выкананню бюджэтаў.

Складанне бюджэту на чарговы фінансавы (бюджэтны) год праводзіцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь на аснове справаздачных даных аб выкананні бюджэту за папярэдні год і за пэўны перыяд бягучага года, прагнозных ацэнак даходаў, параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь, дзяржаўных і рэгіянальных праграм у тэрміны, што ўстанаўліваюцца Урадам Рэспублікі Беларусь і мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі.

Рэспубліканскі бюджэт зацвярджаецца законам Рэспублікі Беларусь, мясцовыя бюджэты — рашэннямі мясцовых Саветаў дэпутатаў.

Фінансавы (бюджэтны) год на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь устанаўліваецца з 1 студзеня па 31 снежня каляндарнага года.

Падліковы перыяд уключае фінансавы (бюджэтны) год і льготны перыяд пасля яго заканчэння, што складае адзін месяц, на працягу якога завяршаюцца аперацыі па абавязацельствах, прынятых у перыяд выканання бюджэту за мінулы фінансавы (бюджэтны) год.

**Артыкул 20. Арганізацыя бюджэтнага працэсу**

Урад Рэспублікі Беларусь устанаўлівае для Міністэрства фінансаў тэрміны складання разліковых паказчыкаў па даходах і расходах кансалідаванага бюджэту Рэспублікі Беларусь, рэспубліканскага бюджэту і кансалідаваных бюджэтаў абласцей і горада Мінска.

Абласнымі (Мінскім гарадскім) выканаўчымі і распарадчымі органамі ўстанаўліваюцца для фінансавых органаў тэрміны складання разліковых паказчыкаў па даходах і расходах кансалідаваных бюджэтаў адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, мясцовых бюджэтаў. Пры гэтым канчатковае складанне мясцовых бюджэтаў на чарговы фінансавы (бюджэтны) год праводзіцца пасля зацвярджэння вышэйстаячымі мясцовымі Саветамі дэпутатаў нарматываў адлічэнняў ад рэспубліканскіх падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў у адпаведныя мясцовыя бюджэты.

Разгляд і зацвярджэнне бюджэтаў і справаздач аб іх выкананні праводзяцца галосна, за выключэннем выпадкаў, калі разглядаюцца пытанні, аднесеныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь да катэгорыі дзяржаўных сакрэтаў.

Для вызначэння бюджэтна-фінансавай палітыкі ў адпаведнасці з праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь абласныя (Мінскі гарадскі) выканаўчыя і распарадчыя органы прадстаўляюць у Міністэрства фінансаў кансалідаваныя бюджэты на чарговы фінансавы (бюджэтны) год і справаздачы аб выкананні бюджэтаў за папярэдні фінансавы (бюджэтны) год у парадку і тэрміны, устаноўленыя Міністэрствам фінансаў.

Парадак і тэрміны складання і прадстаўлення мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі кансалідаваных мясцовых бюджэтаў на чарговы фінансавы (бюджэтны) год і справаздач аб іх выкананні за папярэдні фінансавы (бюджэтны) год устанаўліваюцца фінансавымі органамі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў вышэйстаячага ўзроўню з улікам парадку і тэрмінаў, устаноўленых для іх Міністэрствам фінансаў.

Міністэрства фінансаў складае справаздачу аб выкананні кансалідаванага бюджэту рэспублікі за папярэдні фінансавы (бюджэтны) год, які ўключае справаздачы аб выкананні рэспубліканскага бюджэту і бюджэтаў абласцей і горада Мінска, і прадстаўляе яго Ураду Рэспублікі Беларусь.

Формы бюджэтнай дакументацыі па рэспубліканскаму і мясцовых бюджэтах вызначаюцца Міністэрствам фінансаў.

**Артыкул 21. Складанне, разгляд і зацвярджэнне бюджэтаў**

Складанне праектаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў ажыццяўляецца ў мэтах вызначэння аб'ёму грашовых сродкаў, неабходных для выканання функцый дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь і органаў мясцовага кіравання і самакіравання, эканамічнага і сацыяльнага развіцця Рэспублікі Беларусь або адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак.

Складанне праектаў бюджэтаў знаходзіцца ў выключнай кампетэнцыі Урада Рэспублікі Беларусь і адпаведных мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. Непасрэднае складанне праектаў бюджэтаў ажыццяўляецца Міністэрствам фінансаў і мясцовымі фінансавымі органамі (адпаведнымі выканаўчымі і распарадчымі органамі).

Складанне праектаў бюджэтаў ажыццяўляецца на падставе прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі, асноўных напрамкаў бюджэтна-фінансавай палітыкі.

Міністэрствам эканомікі, Міністэрствам фінансаў і Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь штогод да 1 жніўня года, які папярэднічае плануемаму фінансаваму (бюджэтнаму) году, распрацоўваюцца параметры прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі, асноўныя напрамкі бюджэтна-фінансавай і грашова-крэдытнай палітыкі, якія прадстаўляюцца на разгляд Урада Рэспублікі Беларусь, а пасля адабрэння Урадам — на разгляд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь і яго органы прадстаўляюць Міністэрству фінансаў, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам статыстычную інфармацыю, неабходную для распрацоўкі прагнозаў сацыяльна-эканамічнага развіцця, праектаў бюджэтаў.

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь прадстаўляе ў Міністэрства фінансаў інфармацыю, неабходную для падрыхтоўкі праекта рэспубліканскага бюджэту на чарговы фінансавы (бюджэтны) год.

Міністэрствам фінансаў і мясцовымі фінансавымі органамі адпаведна вызначаюцца прагнозныя паказчыкі па даходах і расходах рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў. Пры гэтым расходы бюджэтаў фарміруюцца з улікам прагназуемых даходаў.

Міністэрства фінансаў на аснове праектаў рэспубліканскага бюджэту і бюджэтаў абласцей і горада Мінска складае праект кансалідаванага бюджэту Рэспублікі Беларусь.

Праекты рэспубліканскага і кансалідаванага бюджэтаў Рэспублікі Беларусь, а таксама мясцовых бюджэтаў на будучы фінансавы (бюджэтны) год і прапановы па збалансаванню бюджэтаў уносяцца адпаведна на разгляд Урада Рэспублікі Беларусь і мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў.

Разгледжаныя і адобраныя Урадам Рэспублікі Беларусь праекты рэспубліканскага і кансалідаванага бюджэтаў Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год прадстаўляюцца на разгляд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*(Абзац першы часткі адзінаццатай не прыводзіцца як не ўступіўшы ў сілу.)**

тлумачальная запіска да праекта бюджэту;

асноўныя напрамкі бюджэтнай і падатковай палітыкі на чарговы фінансавы (бюджэтны) год;

праект кансалідаванага бюджэту Рэспублікі Беларусь на плануемы фінансавы (бюджэтны) год;

асноўныя паказчыкі ўзаемаадносін рэспубліканскага бюджэту з мясцовымі бюджэтамі;

ацэнка чаканага выканання рэспубліканскага і кансалідаванага бюджэтаў за год, які папярэднічае плануемаму фінансаваму (бюджэтнаму) году;

прагнозныя разлікі па даходах і расходах рэспубліканскага бюджэту на плануемы фінансавы (бюджэтны) год.

Пры неабходнасці ўнясення змяненняў і дапаўненняў у акты заканадаўства Рэспублікі Беларусь, якія рэгулююць парадак падаткаабкладання, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь уносіць у Парламент Рэспублікі Беларусь праекты адпаведных законаў ці да ўнясення праекта закона аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год, ці адначасова з гэтым праектам.

Праект закона аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год разглядаецца Парламентам Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Законам аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год устанаўліваюцца і зацвярджаюцца наступныя асноўныя паказчыкі:

перавышэнне даходаў над расходамі бюджэту або расходаў над даходамі бюджэту (дэфіцыт бюджэту), гранічны памер дэфіцыту па рэспубліканскаму бюджэту, бюджэтах абласцей і горада Мінска, унутраныя і знешнія крыніцы фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту;

размеркаванне даходаў паміж рэспубліканскім і мясцовымі бюджэтамі і нарматывы адлічэнняў ад рэспубліканскіх падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў у бюджэты абласцей і горада Мінска;

даходы рэспубліканскага бюджэту у агульнай суме і па відах падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў у адпаведнасці з бюджэтнай класіфікацыяй Рэспублікі Беларусь;

расходы рэспубліканскага бюджэту ў агульнай суме, па раздзелах і падраздзелах функцыянальнай бюджэтнай класіфікацыі Рэспублікі Беларусь і па ведамаснай бюджэтнай класіфікацыі;

пералік рэспубліканскіх мэтавых праграм, фінансаванне якіх прадугледжана са сродкаў рэспубліканскага бюджэту ў плануемым фінансавым (бюджэтным) годзе;

аб'ём асігнаванняў на дзяржаўныя капітальныя ўкладанні ў галіновым разрэзе, фінансаванне якіх у плануемым фінансавым (бюджэтным) годзе прадугледжана са сродкаў рэспубліканскага бюджэту;

пералік абароненых артыкулаў;

памер абаротнай касавай наяўнасці па рэспубліканскаму бюджэту. Пры гэтым максімальны памер абаротнай касавай наяўнасці не можа перавышаць аб'ёму расходаў, роўнага двухтыднёваму фонду заработнай платы, што фінансуецца з бюджэту.

У законе аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год устанаўліваюцца таксама памер прыросту унутранага і ліміт знешняга дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь, ліміт удзелу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь у крэдытаванні рэспубліканскага бюджэту, памер платы за абслугоў-

* *Далей — Міністэрства фінансаў.*

* *Абзац першы часткі адзінаццатай артыкула 21 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь» не ўступіў у сілу ў адпаведнасці з часткай восьмай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.*

**(Заканчэнне на 7-й стар.)**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь»



**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.)**

ванне Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь дзяржаўнага ўнутранага доўгу і іншыя паказчыкі.

Пры зацвярджэнні асігнаванняў па раздзелах і падраздзелах расходаў рэспубліканскага бюджэту першапачаткова абмяркоўваюцца і зацвярджаюцца папраўкі, якія прадугледжваюць скарачэнне расходаў, а затым — папраўкі, якія прадугледжваюць іх павелічэнне.

Закон аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год і рашэнні мясцовых Саветаў дэпутатаў аб зацвярджэнні адпаведных бюджэтаў павінны быць прыняты ва ўстаноўленым парадку да 1 студзеня чарговага фінансавага (бюджэтнага) года. Зацвярджэнне мясцовых бюджэтаў праводзіцца пасля зацвярджэння адпаведных вышэйстаячых бюджэтаў.

У выпадку незацвярджэння рэспубліканскага і (або) мясцовых бюджэтаў да пачатку фінансавага (бюджэтнага) года Урад Рэспублікі Беларусь і мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы маюць права на працягу кожнага месяца да зацвярджэння адпаведных бюджэтаў у парадку, устаноўленым гэтым Законам, расходаваць сродкі ў памеры адной трэці планавых асігнаванняў чацвёртага квартала папярэдняга фінансавага (бюджэтнага) года ў межах паступаючых даходаў.

**Артыкул 22. Выкананне бюджэтаў**

Урад Рэспублікі Беларусь, мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы забяспечваюць выкананне адпаведных бюджэтаў.

Выкананне рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў ажыццяўляецца на падставе закона аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год, іншых нарматыўных актаў Рэспублікі Беларусь і рашэнняў мясцовых Саветаў дэпутатаў у адпаведнасці з бюджэтным роспісам рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, зацверджаных у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Права юрыдычных асоб на расходаванне бюджэтных асігнаванняў, прадугледжаных у каштарысах бягучага фінансавага (бюджэтнага) года, спыняецца па сканчэнні падліковага перыяду, пасля чаго астаткі нявыкарыстаных бюджэтных асігнаванняў на рахунках закрываюцца Міністэрствам фінансаў і адпаведнымі мясцовымі фінансавымі органамі і выкарыстоўваюцца для фінансавання расходаў адпаведных бюджэтаў у чарговым фінансавым (бюджэтным) годзе.

На працягу фінансавага (бюджэтнага) года ў даходную і расходную часткі бюджэту могуць уносіцца змяненні законам Рэспублікі Беларусь, актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Урада Рэспублікі Беларусь, рашэннямі мясцовых Саветаў дэпутатаў у межах зацверджанага бюджэту і прадастаўленых ім правоў. Павелічэнне або памяншэнне аб'ёму даходаў і расходаў рэспубліканскага бюджэту праводзіцца Парламентам Рэспублікі Беларусь або па яго даручэнню Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, мясцовых бюджэтаў — адпаведнымі мясцовымі Саветамі дэпутатаў.

У працэсе выканання бюджэтаў Міністэрства фінансаў і адпаведныя мясцовыя фінансавыя органы маюць права ўносіць змяненні ў квартальныя назначэнні і ў артыкулы расходаў адпаведных бюджэтаў у межах зацверджаных гадавых асігнаванняў па раздзелах і падраздзелах функцыянальнай бюджэтнай класіфікацыі і ведамаснай класіфікацыі расходаў бюджэту.

У выпадку прыняцця актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь або рашэнняў мясцовых Саветаў дэпутатаў, якія выклікаюць павелічэнне расходаў або памяншэнне даходаў ніжэйстаячых бюджэтаў, гэтым бюджэтам пакрываюцца сродкі з вышэйстаячых бюджэтаў.

Страты ў даходах і дадатковыя расходы, якія ўзнікаюць у ходзе выканання бюджэту, не кампенсуюцца за кошт бюджэтаў іншых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, за выключэннем выпадкаў прыняцця актаў заканадаўства, што выклікаюць змяненне парадку выкарыстання сродкаў бюджэту.

У выпадку прыняцця мясцовымі Саветамі дэпутатаў рашэнняў, што супярэчаць законам Рэспублікі Беларусь і рашэнням вышэйстаячых мясцовых Саветаў дэпутатаў у частцы памераў нарматываў адлічэнняў ад рэспубліканскіх падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў, а таксама ў частцы ўзаемных разлікаў, ці невыканання імі і мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі ўказаных палажэнняў у працэсе выканання бюджэтаў сродкі, належныя адпаведным бюджэтам, спаганяюцца Міністэрствам фінансаў і адпаведнымі выканаўчымі і распарадчымі органамі ў бясспрэчным парадку.

Па патрабаванню Міністэрства фінансаў, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў банкі абавязаны прадстаўляць звесткі аб стане банкаўскіх рахункаў міністэрстваў і іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, іншых юрыдычных асоб, якія выкарыстоўваюць сродкі бюджэту, дзяржаўных і галіновых пазабюджэтных фондаў, а таксама аб руху сродкаў па бюджэтных рахунках; юрыдычныя і фізічныя асобы абавязаны прадстаўляць інфармацыю аб выкарыстанні фінансавых сродкаў, атрыманых з бюджэту і дзяржаўных пазабюджэтных фондаў для мэтавага выкарыстання.

Міністэрства фінансаў, мясцовыя фінансавыя органы ва ўстаноўленым парадку маюць права:

абмяжоўваць і прыпыняць фінансаванне расходаў за кошт дзяржаўных фінансавых сродкаў у выпадках невыканання іх атрымальнікамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь, што рэгулюе бюджэтныя адносіны, непрадстаўлення імі інфармацыі аб руху дзяржаўных фінансавых сродкаў па іх рахунках, нямэтавага выкарыстання ўказаных сродкаў;

даваць абавязковыя для выканання банкамі ўказанні аб прыпыненні расходных аперацый па банкаўскіх рахунках распарадчыкаў сродкаў па бюджэту і дзяржаўных пазабюджэтных фондах пры парушэнні імі заканадаўства Рэспублікі Беларусь;

спаганяць у бясспрэчным парадку бюджэтныя сумы, выкарыстаныя не па мэтаваму прызначэнню, у лік пагашэння пазык, атрыманых з бюджэту і дзяржаўных пазабюджэтных фондаў, і працэнты па іх, а таксама запазычанасць па абавязацельствах, якія ўзніклі ў выпадку выканання Урадам Рэспублікі Беларусь плацяжоў па пагашэнню і абслугоўванню крэдытаў, атрыманых пад гарантыю Урада Рэспублікі Беларусь.

Абслугоўванне банкамі дзяржаўных органаў, устаноў і арганізацый, якія фінансуюцца з бюджэту, і іншых юрыдычных асоб па адкрытых імі рахунках для размяшчэння бюджэтных сродкаў праводзіцца бясплатна.

За карыстанне грашовымі сродкамі рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, якія знаходзяцца і размяшчаюцца на рахунках у банках, банкі пералічваюць у даход бюджэтаў працэнты па стаўцы, што ўстанаўліваецца Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Урадам Рэспублікі Беларусь.

Юрыдычныя асобы і прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, абавязаны расходаваць атрыманыя з бюджэту сродкі па мэтаваму прызначэнню і ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Неабгрунтавана атрыманыя ці выкарыстаныя не па мэтаваму прызначэнню або з парушэннем заканадаўства Рэспублікі Беларусь сродкі бюджэту, у тым ліку ў выглядзе зваротных пазык, па рашэнню Міністэрства фінансаў або мясцовага фінансавага органа падлягаюць вяртанню ў бюджэт са спагнаннем у бясспрэчным парадку з юрыдычных асоб, якія ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць, а таксама прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы і дапусцілі ўказаныя парушэнні, штрафу ў двухкратным памеры гэтых сродкаў.

Службовыя асобы прадпрыемстваў, аб'яднанняў, устаноў і арганізацый, вінаватыя ў незаконным атрыманні, выкарыстанні не па мэтаваму прызначэнню або з парушэннем заканадаўства сродкаў бюджэту, у тым ліку атрыманых на зваротнай аснове, прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

### ГЛАВА 4. Рэспубліканскі бюджэт

**Артыкул 23. Змест рэспубліканскага бюджэту**

Рэспубліканскі бюджэт забяспечвае фінансаванне мерапрыемстваў, якія маюць агульнадзяржаўнае значэнне.

Праз рэспубліканскі бюджэт ажыццяўляецца пераразмеркаванне часткі фінансавых рэсурсаў паміж абласцямі і горадам Мінскам, у мэтах выраўноўвання ўзроўняў іх эканамічнага і сацыяльнага развіцця.

Са сродкаў рэспубліканскага бюджэту могуць выдзяляцца бюджэтам абласцей і горада Мінска датацыі, субвенцыі, субсідыі пры недастатковасці сродкаў іх бюджэтаў для фінансавання асобных расходаў і мерапрыемстваў.

Размеркаванне даходаў і расходаў паміж рэспубліканскім бюджэтам і бюджэтамі абласцей і горада Мінска зацвярджаецца законам аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год.

**Артыкул 24. Даходы рэспубліканскага бюджэту**

У даходы рэспубліканскага бюджэту ўключаюцца:

рэгулюючыя даходы, за вылікам адлічэнняў бюджэтам абласцей і горада Мінска;

даходы ад знешнеэканамічнай дзейнасці;

паступленні ад разбраніравання дзяржаўных запасаў і рэзерваў;

даходы дзяржаўных мэтавых бюджэтных фондаў;

трансферты, што атрымліваюцца ад іншых дзяржаў у адпаведнасці з заключанымі дагаворамі;

іншыя даходы ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 25. Расходы рэспубліканскага бюджэту**

З рэспубліканскага бюджэту фінансуюцца:

капітальныя ўкладанні ў аб'екты, якія адносяцца да рэспубліканскай уласнасці;

прыродаахоўныя мерапрыемствы, што ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з агульнадзяржаўнымі праграмамі;

мерапрыемствы па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС;

агульнадзяржаўныя праграмы па сацыяльнай абароне насельніцтва;

іншыя агульнадзяржаўныя мэтавыя праграмы;

затраты, звязаныя са знешнеэканамічнай дзейнасцю;

дзяржаўныя ўстановы і арганізацыі адукацыі, падрыхтоўкі кадраў, навукі, культуры, аховы здароўя, фізічнай культуры, сацыяльнага забеспячэння;

затраты па закладцы і абнаўленню дзяржаўных запасаў і рэзерваў;

расходы на ўтрыманне рэспубліканскіх дзяржаўных органаў, у тым ліку судоў, праваахоўных органаў, органаў дзяржаўнай бяспекі;

нацыянальная абарона, пагранічныя войскі, мытныя органы;

пагашэнне крэдытаў банка, выдадзеных для пакрыцця бюджэтных расходаў, дзяржаўнага доўгу, і аплата працэнтаў па іх;

пагашэнне знешняга доўгу і выплата працэнтаў па крэдытах, атрыманых ад замежных дзяржаў і банкаў, міжнародных фінансавых арганізацый;

утварэнне рэзервовых і дзяржаўных мэтавых бюджэтных фондаў;

выдача пазыковых сродкаў (пазык), датацый, субвенцый, субсідый юрыдычным і фізічным асобам, абласным бюджэтам і бюджэту горада Мінска;

іншыя расходы, якія прадугледжваюцца ў рэспубліканскім бюджэце на адпаведны фінансавы (бюджэтны) год.

**Артыкул 26. Складанне, разгляд і зацвярджэнне праекта рэспубліканскага бюджэту**

Праект рэспубліканскага бюджэту складаецца, разглядаецца і зацвярджаецца ў адпаведнасці з артыкулам 21 гэтага Закона.

Праект закона аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год у Парламент Рэспублікі Беларусь уносіць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 27. Выкананне рэспубліканскага бюджэту**

Міністэрства фінансаў, Дзяржаўны падатковы камітэт, Дзяржаўны мытны камітэт Рэспублікі Беларусь, іншыя рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання, мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы, мясцовыя фінансавыя і падатковыя органы, юрыдычныя асобы і прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, забяспечваюць паступленне прадугледжаных у бюджэце падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў і эфектыўнае расходаванне бюджэтных сродкаў у адпаведнасці з іх мэтавым прызначэннем.

На аснове зацверджаных законам Рэспублікі Беларусь паказчыкаў рэспубліканскага бюджэту Міністэрствам фінансаў складаецца і зацвярджаецца бюджэтны роспіс.

Бюджэтны роспіс з'яўляецца асноўным дакументам, у адпаведнасці з якім ажыццяўляецца выкананне рэспубліканскага бюджэту па даходах і расходах.

Сродкі ад перавышэння даходаў над расходамі, атрыманыя пры выкананні рэспубліканскага бюджэту пасля фарміравання ў поўным аб'ёме абаротнай касавай наяўнасці, выкарыстоўваюцца ў наступным фінансавым (бюджэтным) годзе Урадам Рэспублікі Беларусь.

Часова свабодныя грашовыя сродкі рэспубліканскага бюджэту могуць укладвацца ў каштоўныя паперы, іншую інвестыцыйную дзейнасць, у тым ліку выкарыстоўвацца на выдачу пазык юрыдычным асобам у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У выпадку часовых касавых разрываў пры выкананні бюджэтаў абласцей і горада Мінска з рэспубліканскага бюджэту па хадайніцтвах абласных (Мінскага гарадскога) выканаўчых і распарадчых органаў могуць быць выдадзены Урадам Рэспублікі Беларусь або па яго даручэнню Міністэрствам фінансаў працэнтныя і беспрацэнтныя пазыкі, якія павінны быць вернуты ва ўстаноўленыя тэрміны ў межах бягучага фінансавага (бюджэтнага) года.

**Артыкул 28. Кантроль за выкананнем рэспубліканскага бюджэту**

Кантроль за выкананнем рэспубліканскага бюджэту ажыццяўляецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, Урадам Рэспублікі Беларусь і Камітэтам дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь. Аператыўны кантроль за своечасовым паступленнем даходаў і расходаваннем сродкаў па мэтаваму прызначэнню ўскладаецца на Міністэрства фінансаў, Дзяржаўны падатковы камітэт, Дзяржаўны мытны камітэт Рэспублікі Беларусь, мясцовыя фінансавыя, падатковыя і мытныя органы.

На працягу фінансавага (бюджэтнага) года выкананне рэспубліканскага бюджэту кантралюецца Урадам Рэспублікі Беларусь і Камітэтам дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь. Вынікі выканання даходаў і расходаў бюджэту дакладваюцца Урадам Рэспублікі Беларусь Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і Парламенту Рэспублікі Беларусь.

У мэтах ажыццяўлення кантролю Урад Рэспублікі Беларусь і мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы вышэйстаячага тэрытарыяльнага ўзроўню маюць права ў працэсе выканання бюджэту запатрабаваць ад мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў ніжэйстаячага тэрытарыяльнага ўзроўню, дзяржаўных падатковых органаў, іншых органаў кіравання, юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, любую інфармацыю, звязаную з выкананнем бюджэту і выкарыстаннем бюджэтных сродкаў.

**Артыкул 29. Справаздача аб выкананні рэспубліканскага бюджэту**

Дзяржаўная справаздачнасць па выкананню рэспубліканскага бюджэту прадстаўляецца ў статыстычныя органы ва ўстаноўленыя тэрміны.

Урад Рэспублікі Беларусь распрацоўвае і прадстаўляе Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь для ўнясення ў Парламент Рэспублікі Беларусь справаздачу аб выкананні рэспубліканскага бюджэту, якая прадстаўляецца на разгляд Парламента Рэспублікі Беларусь не пазней пяці месяцаў з дня заканчэння справаздачнага фінансавага (бюджэтнага) года па такой жа структуры, што і зацверджаны бюджэт за адпаведны год.

Справаздача аб выкананні рэспубліканскага бюджэту зацвярджаецца законам Рэспублікі Беларусь.

Праект закона аб зацвярджэнні справаздачы аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за папярэдні фінансавы (бюджэтны) год разглядаецца Парламентам Рэспублікі Беларусь да разгляду праекта закона аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год.

Справаздача аб выкананні рэспубліканскага бюджэту ў аб'ёме паказчыкаў, прынятых пры зацвярджэнні бюджэту, публікуецца ў друку ў адпаведнасці з артыкулам 11 гэтага Закона.

### ГЛАВА 5. Мясцовыя бюджэты

**Артыкул 30. Змест мясцовых бюджэтаў**

Да мясцовых бюджэтаў адносяцца абласныя, раённыя, гарадскія бюджэты, бюджэты пасёлкаў гарадскога тыпу і сельсаветаў. Мясцовыя бюджэты забяспечваюць фінансаванне эканамічных, сацыяльных, культурных і іншых мерапрыемстваў, якія праводзяцца на адпаведнай тэрыторыі.

Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы, Саветы дэпутатаў у межах сваёй кампетэнцыі самастойна складаюць, разглядаюць, зацвярджаюць і выконваюць бюджэты зыходзячы з агульнадзяржаўных інтарэсаў і інтарэсаў насельніцтва, якое пражывае на адпаведнай тэрыторыі. Умяшанне любых органаў у працэс складання, разгляду, зацвярджэння і выканання мясцовых бюджэтаў не дапускаецца, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных законамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 31. Даходы мясцовых бюджэтаў**

Даходы мясцовых бюджэтаў фарміруюцца ў адпаведнасці з артыкулам 13 гэтага Закона.

**Артыкул 32. Размеркаванне даходаў паміж мясцовымі бюджэтамі**

Даходы, якія залічваюцца ў мясцовыя бюджэты, размяркоўваюцца паміж абласнымі, раённымі, гарадскімі бюджэтамі, бюджэтамі пасёлкаў гарадскога тыпу і сельсаветаў у залежнасці ад тэрытарыяльнага ўзроўню мясцовых Саветаў дэпутатаў у адпаведнасці з актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Склад і памеры часткі рэспубліканскіх падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў, якія залічваюцца ў бюджэты абласцей і горада Мінска, устанаўліваюцца штогод у законе аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на наступны фінансавы (бюджэтны) год.

Размеркаванне часткі рэспубліканскіх падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў паміж абласнымі бюджэтамі і бюджэтамі раёнаў і гарадоў абласнога падпарадкавання ажыццяўляецца абласнымі Саветамі дэпутатаў.

Размеркаванне часткі рэспубліканскіх падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў паміж раённымі бюджэтамі, бюджэтамі гарадоў раённага падпарадкавання, пасёлкаў гарадскога тыпу і сельсаветаў ажыццяўляецца раённымі Саветамі дэпутатаў.

**Артыкул 33. Расходы мясцовых бюджэтаў**

Мясцовыя Саветы дэпутатаў самастойна ў межах сваіх паўнамоцтваў вызначаюць напрамкі выкарыстання сродкаў мясцовых бюджэтаў, за выключэннем перададзеных ім з вышэйстаячага бюджэту фінансавых рэсурсаў, якія маюць мэтавае прызначэнне.

У складзе мясцовых бюджэтаў утвараюцца рэзервовыя і мэтавыя бюджэтныя фонды, памеры якіх вызначаюцца адпаведнымі мясцовымі Саветамі дэпутатаў.

Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы могуць укладваць наяўныя ў іх часова свабодныя грашовыя сродкі ў гаспадарчую дзейнасць, каштоўныя паперы, іншую інвестыцыйную дзейнасць, у тым ліку выкарыстоўваць на выдачу пазык юрыдычным асобам у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У мясцовых бюджэтах прадугледжваюцца сумы, неабходныя для вяртання пазыковых сродкаў (пазык) і выплаты працэнтаў па іх.

**Артыкул 34. Складанне, разгляд і зацвярджэнне мясцовых бюджэтаў**

Кожны мясцовы Савет дэпутатаў самастойна фарміруе свой бюджэт, грунтуючыся на:

замацаваных крыніцах даходаў;

нарматывах адлічэнняў ад рэспубліканскіх падаткаў, іншых абавязковых плацяжоў, устаноўленых законам аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год і рашэннямі мясцовых Саветаў дэпутатаў для адпаведных бюджэтаў;

дадатковых крыніцах, устаноўленых мясцовымі Саветамі дэпутатаў;

сумах датацый, субвенцый і субсідый, якія атрымліваюцца з вышэйстаячых бюджэтаў;

патрэбнасці ў расходах на фінансаванне мерапрыемстваў па эканамічнаму і сацыяльнаму развіццю.

Парадак і тэрміны складання мясцовых бюджэтаў устанаўліваюцца мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі. Складанне мясцовых бюджэтаў праводзіцца мясцовымі фінансавымі органамі (бюджэтаў гарадоў раённага падпарадкавання, пасёлкаў гарадскога тыпу і сельсаветаў — выканаўчымі і распарадчымі органамі) на падставе прагнозных паказчыкаў па даходах і расходах мясцовых бюджэтаў і атрымліваемых адпаведна ад Міністэрства фінансаў або вышэйстаячых выканаўчых і распарадчых органаў прагнозных разліковых паказчыкаў, прынятых для вызначэння нарматываў адлічэнняў ад рэспубліканскіх падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў у гэтыя бюджэты, сум датацый.

Складзеныя праекты мясцовых бюджэтаў уносяцца для разгляду ў адпаведныя мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы. Адначасова прадстаўляюцца прапановы аб нарматывах адлічэнняў ад рэспубліканскіх падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў у ніжэйстаячыя бюджэты.

Выканаўчыя і распарадчыя органы разглядаюць праекты мясцовых бюджэтаў (абласнога, раённага, гарадскога бюджэту, бюджэту пасёлка гарадскога тыпу і сельсавета) і нарматывы адлічэнняў ад рэспубліканскіх падаткаў, іншых абавязковых плацяжоў у ніжэйстаячыя бюджэты і прадстаўляюць адпаведным мясцовым Саветам дэпутатаў:

праект мясцовага бюджэту з выдзяленнем даходаў і расходаў у адпаведнасці з бюджэтнай класіфікацыяй Рэспублікі Беларусь;

прапановы аб нарматывах адлічэнняў ад рэспубліканскіх падаткаў, іншых абавязковых плацяжоў у ніжэйстаячыя бюджэты і аб памеры абаротнай касавай наяўнасці па бюджэту;

праект рашэння мясцовага Савета дэпутатаў аб бюджэце на чарговы фінансавы (бюджэтны) год;

прагноз кансалідаванага бюджэту адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі.

У зацверджаным мясцовым Саветам дэпутатаў бюджэце ўстанаўліваюцца:

даходы мясцовага бюджэту ў агульнай суме і па відах падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў у адпаведнасці з бюджэтнай класіфікацыяй Рэспублікі Беларусь;

расходы мясцовага бюджэту ў агульнай суме, па раздзелах і падраздзелах функцыянальнай бюджэтнай класіфікацыі Рэспублікі Беларусь і па ведамаснай бюджэтнай класіфікацыі;

перавышэнне даходаў над расходамі бюджэту або расходаў над даходамі бюджэту (дэфіцыт бюджэту), крыніцы фінансавання дэфіцыту бюджэту;

памеры рэзервовых і мэтавых бюджэтных фондаў, а таксама памер абаротнай касавай наяўнасці;

памер дэфіцыту ніжэйстаячага бюджэту ў межах узроўню, зацверджанага вышэйстаячым мясцовым Саветам дэпутатаў;

нарматывы адлічэнняў ад рэспубліканскіх падаткаў, іншых абавязковых плацяжоў у ніжэйстаячыя бюджэты.

Зацверджаныя мясцовымі Саветамі дэпутатаў мясцовыя бюджэты публікуюцца ў друку ў адпаведнасці з артыкулам 11 гэтага Закона.

**Артыкул 35. Выкананне мясцовых бюджэтаў**

Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы, мясцовыя фінансавыя і падатковыя органы арганізуюць выкананне мясцовых бюджэтаў, забяспечваюць паступленне ўсіх прадугледжаных даходаў і расходаванне бюджэтных сродкаў у адпаведнасці з іх мэтавым прызначэннем.

Мясцовыя бюджэты выконваюцца ў адпаведнасці з бюджэтным роспісам, які складаецца мясцовымі фінансавымі органамі або адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі згодна зацверджаным бюджэтам.

Выканаўчыя і распарадчыя органы гарадоў з раённым дзяленнем могуць прадастаўляць права выканання гарадскога бюджэту ў частцы фінансавання бюджэтных устаноў і арганізацый, размешчаных на тэрыторыі раёнаў у горадзе, мясцовым адміністрацыям раёнаў у адпаведнасці з каштарысамі расходаў, зацверджанымі ва ўстаноўленым парадку.

У выпадку часовых касавых разрываў пры выкананні мясцовых бюджэтаў па хадайніцтвах мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў могуць быць выдадзены працэнтныя і беспрацэнтныя пазыкі з абласных і раённых бюджэтаў адпаведным выканаўчым і распарадчым органам. Вяртанне атрыманых пазыковых сродкаў (пазык) праводзіцца ў межах бягучага фінансавага (бюджэтнага) года.

Кантроль за выкананнем мясцовых бюджэтаў ажыццяўляецца органамі Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь і адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі вышэйстаячага ўзроўню. Аператыўны кантроль за своечасовым паступленнем даходаў і расходаваннем сродкаў па мэтаваму прызначэнню праводзіцца мясцовымі фінансавымі і падатковымі органамі.

**Артыкул 36. Справаздача аб выкананні мясцовых бюджэтаў**

Справаздача аб выкананні абласнога бюджэту, бюджэту горада Мінска, раённага, гарадскога (горада абласнога падпарадкавання) бюджэту складаецца мясцовымі фінансавымі органамі і прадстаўляецца адпаведнаму мясцоваму выканаўчаму і распарадчаму органу. Справаздача аб выкананні бюджэту горада раённага падпарадкавання, пасёлка гарадскога тыпу і сельсавета складаецца адпаведным мясцовым выканаўчым і распарадчым органам. Справаздачы аб выкананні мясцовых бюджэтаў прадстаўляюцца адпаведнаму вышэйстаячаму фінансаваму органу.

Справаздачы аб выкананні мясцовых бюджэтаў прадстаўляюцца на разгляд адпаведных Саветаў дэпутатаў ва ўстаноўленыя імі тэрміны. Разгляд і зацвярджэнне справаздачы аб выкананні мясцовага бюджэту праводзіцца мясцовым Саветам дэпутатаў ва ўстаноўленым парадку.

Справаздача аб выкананні мясцовага бюджэту за папярэдні фінансавы (бюджэтны) год зацвярджаецца адначасова з праектам мясцовага бюджэту на чарговы фінансавы (бюджэтны) год.

Справаздача аб выкананні мясцовага бюджэту ў аб'ёме паказчыкаў, прынятых пры зацвярджэнні бюджэту, публікуецца ў друку ў адпаведнасці з артыкулам 11 гэтага Закона.

### ГЛАВА 6. Дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды

**Артыкул 37. Дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды**

Дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды з'яўляюцца састаўной часткай дзяржаўных фінансавых сродкаў і ўяўляюць сабой сукупнасць фінансавых рэсурсаў, якія выкарыстоўваюцца па мэтаваму прызначэнню. Стварэнне дзяржаўных пазабюджэтных фондаў, вызначэнне крыніц іх стварэння і парадку выкарыстання ажыццяўляюцца актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і законамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 38. Дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды і бюджэт**

Сродкі дзяржаўных пазабюджэтных фондаў не з'яўляюцца часткай бюджэтаў усіх узроўняў і не падлягаюць адабранню.

Падаткі і іншыя абавязковыя плацяжы могуць накіроўвацца ў дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды ў парадку, устаноўленым актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і законамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 39. Складанне, разгляд, зацвярджэнне і выкананне бюджэтаў (каштарысаў) дзяржаўных пазабюджэтных фондаў, кантроль за іх выкананнем**

Складанне, разгляд, зацвярджэнне і выкананне бюджэтаў (каштарысаў) дзяржаўных пазабюджэтных фондаў ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Абслугоўванне банкамі дзяржаўных пазабюджэтных фондаў, устанаўленне адказнасці за неабгрунтаванае і нямэтавае выкарыстанне сродкаў, кантроль за іх выкарыстаннем ажыццяўляюцца з выкананнем устаноўленых гэтым Законам патрабаванняў для бюджэтаў».

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня апублікавання.

Да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам акты дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь прымяняюцца ў той частцы, якая не супярэчыць дадзенаму Закону, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 3.** Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін з дня ўступлення ў сілу гэтага Закона прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

15 ліпеня 1998 г., г. Мінск.
№ 192-З

НА КОНКУРС «ЗВЯЗДЫ» І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ



Мікола ЗАХАРАНКА

# САНКІ

АПАВЯДАННЕ

***Прыйшоў у рэдакцыю чалавек, прынёс харошае апавяданне — а хто ён, што ён — загадка. Ні адраса, ні звестак пра сябе, ні імя па бацьку... Бывае і такое. Можа, калі ўбачыць свой твор надрукаваным у газеце, дык абзавецца?***

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

У МІШКІ РАЎНЯКА былі бабуля, сястра, маці і бацька.

Асабліва бацька!

Мішка вылучаў гэтае «асабліва», бо яму было шэсць, а бацьку — трыццаць шэсць. У самай сіле бацька, самае тое, што трэба падшыванцу. Бацька адкрываў Мішку белы свет, ён і сам быў як прыблуда з белага свету. Чаго ад яго не пачуеш! Хаця быў ён чалавек негаваркі, маўчун. Праўда, калі папытаешся — адкажа. Зусім выпадкова даведаўся Мішка аднойчы, што бацька быў на вайне і страляў з мінамёта!

— Тата, колькі ты немцаў забіў?

— Дасць Бог, ніводнага.

— А забітых немцаў бачыў?

— Поўна...

І ўсё. І далей моўчкі націрае скрутак зачэпленых за дзвярны вушак нітак — «дратву» — «смалой», змесівам воску з чорнай «жавачкай», якой на будоўлі новай школы бяры колькі хочаш і жуй, хоць да вечара, ды сыходзь белай слінай, як карова.

Вось так.

Або сядзіць ён ля акна і коле нажом кароценькі кляновы — абавязкова кляновы! — цурбанчык на тонкія, як запалкі, палачкі, толькі карацейшыя ўдвая.

— А што ты робіш?

— Цвікі...

— Ха! Цвікі жалезныя.

— А гэта кляновыя...

— А нашто?

— Чобаты падбіваць.

І падбіваў! Хромавым суседчыным ботам падбіў новыя падэшвы. Праколе шылам дзірачку, уваткне кончыкам той «цвік» і — бац малаточкам! Гатова. Мішка не верыў, што запалкамі можна штосьці прыбіць, ды падэшвы тыя трымаліся, як на сапраўдных цвіках.

Не, бацька не быў шаўцом, проста ён усё ўмеў.

Але жылі цяжка. «Няма як жыць!» — жалілася маці.

Бацька прынцыпова не ішоў у калгас, і яны былі пазбаўлены розных калгасных ільгот. А ішлі пяцідзесятыя гады, дык...

Вось бацька і зрабіў санкі, каб вазіць з лесу дровы. Абчасаў гладзенька дзве ясянёвыя жэрдкі і сунуў іх канцамі ў добра напаленую печ.

— Хай парацца.

— А нашто?

— Распарацца, дык будуць гнуцца. Так жа ты палазы не сагнеш.

Па хаце паплыў салодкі ясянёвы дух, і Мішка рашыў не лезці пакуль з пытаннямі ў невядомую навуку. Адно спытаўся.

— А што будзе?

— Сані...

Сані і атрымаліся. Палазы, капылы... Ды былі гэтыя сані ці то конскія, ці то чалавечыя. Бадай што конскія, з такімі не паедзеш на горку катацца — не ўсцягнеш.

Мішка быў расчараваны.

— Нашто ты такія здаровыя зрабіў?

— Каб болей пакласці.

— А нашто?

— Каб болей украсці, — з'едліва і ў рыфму ўмяшалася маці.

Ёй было горка ад тае беднасці, што прымушае красці, няхай сабе і ў лесе.

Пачалося новае жыццё.

З першым снегам Мішка з бацькам і новымі санкамі праз дзень наладзіліся «ездзіць па дровы» — так будзённа стала звацца паміж імі гэтая завядзёнка. На раннім зімовым змярканні, на глухой лясной дарозе бацьку раптам бы нешта адпускала. Ён рабіўся вясёлы і пачынаў гаварыць сам. Тады Мішка даведаўся, што «калі хочаш, каб ляснік не пачуў», сухастоіну трэба пілаваць, а не сячы; што калі ўвечары «на ўсход далёка відаць» — заўтра будзе сонца; што дуб і бярозу трэба калоць «па суку», а сасну паміж сукоў; што...

Што ўзімку па лясах ходзіць Дзед з ружжом. Ад гэтага было яшчэ страшней. Назаўтра раніцай Мішка ўбачыў на свежым некранутым снезе (толькі вузкую сцяжынку да веснічак пракапаў бацька) сляды, утрая большыя за бацькавы. Прыходзіў!

Неўзабаве яны ўбачылі яго на свае вочы, праўда, здалёк, праз хмызы, у прыцемку. Каля голага дуба на снезе гарэў агонь і тапталася велізарная чалавечая постаць з ружжом за плячыма.

— Вунь, бачыш? А ты не верыў, — прыглушаным голасам сказаў бацька.

А Мішка ж верыў!

— Ружжа не бачыш?

— Ружжо бачу...

— Ну, дык налягайма, бо як дагоніць — штрафу не мінеш.

Яны былі ўжо «гружаныя» і вярталіся дадому. Мішка з усяе сілы ззаду папіхаў воз, дапамагаў запрэжанаму бацьку. Але Дзед усёроўна, здавалася, даганяў іх.

— Татка, бягом, — прасіў Мішка. Ён змогся і тайна пад'язджаў на полазе.

— Я ж не конь. От, каб хто мяне паганяў...

— Дык я магу!.. — сказаў Мішка і спужаўся.

— А што? Давай, сынок, садзіся, а я дзе дубца харошага высеку.

Мішка ўзлез на дровы, і бацька ўручыў яму доўгі дубец, выламаны з ляшчыны. Упрогся, крануў сані з месца.

— Паганяй!

Мішка нясмела шлёгнуў па бацькавай спіне.

— Хто ж так паганяе? — павярнуўся да «возніка» «конь», весела скалячы маладыя зубы. — Не ляніся, сынок, а то мне важка.

І Мішка з усяе сілы выцяў бацьку дубцом, і бацька пабег подбегам, пакідаючы далёка ззаду страшнага Дзеда.

Але было нешта не так, не тое.

— Іг-гі-гі-гі! — заіржаў «конь», замарудзіў крок і стаў. Мішка саскочыў з санак, прытуліўся тварам да пахучага бярозавага палена і горка заплакаў. Ён зразумеў нядобры бацькаў жарт, але яму ўсёроўна было шкада бацьку.

У тую зіму яны навазілі дроў, колькі і на машыне не прывязеш. Бацька з сынам так прызвычаіліся красці сухастой у лесе, што гэта зрабілася ладам іх жыцця. Маці адчувала гэтую ненармальнасць, да таго ж раўнавала мужа з сынам, заўважаючы іх маўклівую змову паміж сабой ды... з лесавіком, ці што?..

— Годзе ўжо, спыніся, — сказала яна бацьку. — Хутка ляснік з міліцыянерам у хату прыйдуць, усё табе мала, гаўнаед!

Ах, якая гэта была няпраўда!

Бацька змоўчаў, панурыўся і павесіў санкі на крук пад паветкай.

І зноў толькі адказваў на пытанні, але сам ужо, па сваёй ахвоце, з Мішкам не размаўляў. Маўклівы чалавек, ён і ёсць маўклівы...

Мішку запала ў вушы матчына «гаўнаед». І ён, прызвычаены да бацькавых дзівосаў (усё можа быць!), спытаўся.

— Тата, а ты гаўно еў?

— Еў змалку, — сумна адказаў бацька, але Мішка ўгледзеў, як блiснула іскрынка ў яго вачах.

Бацькавы жартачкі, справа прывычная...

Праз сорак гадоў пасля тых зімовых падзей Андрэй Раўняк памёр. Мішка Раўняк на бацькавых хаўтурах не заплакаў і нават на памінках не выпіў ані чаркі. Хаця цяпер ён мог бы... І не адну і не дзве... Але Мішка цвёрда западозрыў чарговую бацькаву «містыфікацыю». І толькі калі адбылі саракавіны, да яго дайшло, што бацька не жартуе, што менавіта ён ляжыць пад тым дубовым крыжам на краю могілак. Мішка спахмурнеў і тыдзень хадзіў панурны, але цвярозы.

Час лечыць, і па часе ўсё стала на сваё месца. Мішка вярнуўся да працы ў леспрамгасе і да ўлюбёнага хаўрусу сваіх сабутэльнікаў, таксама, як і Мішка, сарака-, пяцідзесяцігадовых (мацёрых) леспрамгасаўскіх рабацяг, якія «выпіць любяць, ды меру ведаюць і волі глотцы не даюць, бо не столькі п'юць, колькі ішачаць».

Цяпер у бяседзе з сябрамі Мішка Раўняк часцяком палохае іх: пасярод бяседы ненадоўга задумаецца ды раптам грукне пудовым кулаком па стале (кожны раз знянацку!), і здзіўлена скажа: «От, у мяне быў бацька!» Прамаўляе ён гэта не да месца і недарэчы. Сябры даруюць яму ягоную выхадку, хаця Мішка і парушае парадак заўсёды на самым цікавым месцы — тады, як наліваюць.

Няхай, кажуць, хваліцца, у чалавека гора.

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ПРАЦА БЕЛАРУСКІХ ПЕДАГОГАЎ ЧАКАЕ АДЗНАКІ НА РАДЗІМЕ

**У 1990 годзе ў маскоўскім выдавецтве «Навука» выйшла кніга «Лекцыі па тэорыі графаў», аўтарамі якой з'яўляюцца беларускія матэматыкі У. Емелічаў, А. Мельнікаў, У. Сарванаў і Р. Тышкевіч. Гэты падручнік вылучаны на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.**

**Прадбачу пытанне: няўжо матэматычны падручнік у стане прэтэндаваць на ўзнагароду дзяржаўнага ўзроўню? Каб у гэтым упэўніцца, варта разгледзець, што ўяўляе сабой адна з важнейшых галін матэматыкі — тэорыя графаў.**

Тэорыя графаў нарадзілася пры рашэнні галаваломак і займальных гульняў (задачы пра шахматнага каня, вандраванні, пра вяселлі і гарэмы...), аднак зрабілася даступным і моцным сродкам вырашэння вельмі шырокага кола праблем рэальнага жыцця.

Як выяўлена, большасць клетак мозгу бярэ ўдзел у распазнаванні зрокавай інфармацыі. Каб паскорыць асэнсаванне тых ці іншых пытанняў, мы часта выкарыстоўваем малюнкі і зрокавыя вобразы, чэрцім схемкі, чарцёжыкі, робім накіды...

Неістотна, пра што ідзе гаворка: пра людзей, гарады, вёскі, чыгуначныя станцыі, электрычныя прылады, атамы, грамадскія аб'яднанні... Усё гэта магчыма пазначыць на малюнку звычайнымі пунктамі, альбо коламі, — так званымі вяршынямі графа. А суадносіны паміж аб'ектамі — лініямі са стрэлкамі, якія дазволяць пазначыць накіраванасць дзеянняў альбо зносінаў. Такім чынам, шмат людзей інтуітыўна карыстаюцца графамі, нават не падазраючы пра матэматычны змест зробленага.

Тэорыя графаў выйшла за межы матэматыкі, а затым і фізікі, хіміі, іншых тэхнічных навуковых дысцыплін. Яна набыла універсальнае значэнне, зрабілася матэматычнай мадэллю шматлікіх сістэм, дзе існуюць дыскрэтныя аб'екты і бінарныя (па прынцыпу альбо-альбо) адносіны паміж імі. Напрыклад, у такіх галінах, як тэорыя перадачы інфармацыі, тэорыя транспартных сетак, праграміраванне, кібернетыка, камп'ютэрная графіка, аўтаматызацыя праектавання тэхнічных сістэм і працэсаў, матэматычная эканоміка, біялогія, нават лінгвістыка і сацыяльныя навукі.

«Лекцыі па тэорыі графаў» раскупілі ў першыя ж дні пасля з'яўлення на прылаўках. Да сённяшняга дня кніга не мае вартых ёй канкурэнтаў ні ў СНД, ні ў краінах далёкага замежжа.

Па сутнасці, кніга беларускіх аўтараў — першы і пакуль адзіны падручнік для студэнтаў па тэорыі графаў на рускай мове.

Як сцвярджае выдатны расійскі вучоны, намеснік дырэктара Вылічальнага цэнтра Расійскай акадэміі навук, лаўрэат Ленінскай прэміі, акадэмік РАН Ю. І. Жураўлёў: «Акрамя багатага тэарэтычнага матэрыялу кніга змяшчае ў сабе шмат цікавага для спецыялістаў у галіне дыскрэтнай матэматыкі, матэматычнага праграміравання, даследавання аперацый і матэматычнай кібернетыкі. Гэта і вучэбныя практыкаванні, і нявырашаныя праблемы, праілюстраваныя цікавымі прыкладамі. Кніга дае дастаткова поўнае ўяўленне пра сучасныя напрамкі даследаванняў у тэорыі графаў, напісана выразнай, зразумелай і даступнай мовай».

Кніга заснавана на курсах лекцый, якія аўтары больш за 15 гадоў чыталі ў БДУ і Беларускай політэхнічнай акадэміі. Да таго ж стваральнікі падручніка выдатна ведаюць свой прадмет, паколькі з'яўляюцца найбольш дасведчанымі спецыялістамі па тэорыі графаў у рэспубліцы, і надрукавалі больш за 100 навуковых прац у гэтай галіне.

Так, прафесара Рэгіна Іосіфаўна Тышкевіч і Уладзімір Аляксеевіч Емелічаў больш за 40 гадоў працуюць у вышэйшай школе. У іх вялікая колькасць вучняў. Яны маюць велізарны аўтарытэт як у краіне, так і за мяжою, вядуць сумесныя работы з замежнымі калегамі. Р.І.Тышкевіч з'яўляецца заслужаным работнікам адукацыі Рэспублікі Беларусь. Уладзімір Іванавіч Сарванаў — загадчык лабараторыі Інстытута матэматыкі Нацыянальнай акадэміі навук. Ён паспяхова сумяшчае навуковую, педагагічную і адміністрацыйную працу. Дацэнт Алег Ісідаравіч Мельнікаў больш за 25 гадоў выкладае матэматыку ў БДУ. На яго думку, тэорыі графаў варта вучыць не толькі дарослых студэнтаў, але і школьнікаў. Бо калі вучні будуць ведаць дыскрэтную матэматыку, гэта палегчыць ім асваенне камп'ютэра. Нездарма Міністэрства народнай адукацыі прыняло праграму «Метады алгарытмізацыі і праграміравання» для вывучэння інфарматыкі на паглыбленым узроўні, дзе існуе раздзел, прысвечаны тэорыі графаў. У апошні час А.І.Мельнікаў падрыхтаваў дзве займальныя кнігі для школьнікаў: «Нязнайка ў краіне графаў» і «Займальныя задачы па тэорыі графаў». Яны павінны выйсці ў пачатку наступнага года.

Ужо ў Галандыі выйшаў працяг кнігі гэтых жа аўтараў «Тэорыя графаў у задачах і практыкаваннях». У 1999 годзе гэтая кніга ўбачыць свет у Беларусі, у выдавецтве «Вышэйшая школа».

На мой погляд, велізарная праца беларускіх вучоных, якая ўжо атрымала прызнанне за мяжою, павінна быць адзначана і на радзіме. Як вядома, Беларусь амаль не мае ўласных карысных выкапняў. Рэсарсам для развіцця эканомікі не ў апошнюю чаргу павінен стаць інтэлект нашых навукоўцаў і плённая праца педагогаў, якія рыхтуюць адукаванае пакаленне маладых беларусаў.

**Таццяна ПАЛЯКОВА.**

# ...І НАПОЎНЯЦЦА ГІСТАРЫЧНЫЯ ЗАСЕКІ

Пачаўшы друкавацца ў сярэдзіне 1960 гадоў, Алесь Марціновіч хутка асвоіў усе жанры літаратурнай крытыкі, асноўныя з якіх рэцэнзія, праблемны артыкул, агляд, літаратурны партрэт, інтэрв'ю... У 1983 годзе выдаў брашуру «Мастацкі летапіс сучаснасці», у 1990-м выйшлі два яго зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў «Далучанасць» і «Пад небам вечнасці», а пасля яшчэ ці не з дзесятак кніг.

Нарэшце ў 1996 годзе выйшла кніга гістарычных эсэ і нарысаў Алеся Марціновіча, якую высока ацаніла літаратурная грамадскасць, вылучыўшы яе аўтара на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Кніга адрасавана дзецям сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту, але, думаецца, яе з цікавасцю і карысцю для свайго духоўнага ўзбагачэння прачытае самае шырокае кола чытачоў.

Яна будзе выдатным дапаможнікам настаўнікам, якія закліканы несці святло ведаў па гісторыі і культуры нашага роднага краю. А дасведчаныя людзі ці шмат ведаюць пра такія жаночыя постаці ў нашай гісторыі, як Рагнеда, Ефрасіння Полацкая, Барбара Радзівіл, Саламея Пільштынова-Русецкая, Пелагея і Кацярына Азарэвіч? Напэўна, многія сарамліва мусяць прызнацца, што нешта чулі, але...

Гісторыя ў асобах... Гавораць, што гісторыю робіць народ. Народ, вядома, на многае здатны, але пры ўмове, што ў яго ёсць духоўныя лідэры. А беларуская зямля, як слушна заўважана ў анатацыі да кнігі, заўсёды нараджала таленты — выдатных ваяроў, навукоўцаў, палітыкаў, творцаў. Алесь Марціновіч на дакументальнай аснове стварыў уражлівую панараму выдатных дзеячаў мінулага Беларусі ў розных сферах жыццядзейнасці народа. Сярод герояў нарысаў — Ефрасіння Полацкая («Як прамень сонечны»), Кірыла Тураўскі («Златавуст з Турава»), паэт Мікола Гусоўскі («Песня пра Беларусь»), заснавальнік Вялікага княства Літоўскага князь Войшалк («Ля вытокаў Вялікага княства»)...

У зборнік апраўдана ўключаны нарысы пра двух выдатных польскіх кампазітараў — Агінскага і Манюшку — жыццём і творчасцю непарыўна звязаных з беларускай зямлёй. Кожны з іх па-свойму, несумненна, паспрыялі развіццю музычнай культуры на Беларусі.

Шмат падрабязнасцяў, жыццёвых фактаў з біяграфіі героя нарыса «Хто вы, доктар Русель?» — нашага легендарнага земляка Мікалая Судзілоўскага — змагара за сацыяльную справядлівасць, падарожніка па свеце не па сваёй волі, які неспадзеўна для сябе стаў прэзідэнтам сената Гавайскіх астравоў.

У кожным матэрыяле Алесь Марціновіч адкрывае для чытача незнаёмы, прынамсі малазнаёмы, свет, да гэтага схаваны за «загародкамі» часу, стварае праўдзівыя вобразы нашых выдатных папярэднікаў (вучоны-эксперыментатар Якуб Наркевіч-Ёдка, мастак Напалеон Орда, рэвалюцыянер, вучоны і падарожнік Ігнат Дамейка, афіцэр Чарнаморскага флоту Аляксандр Казарскі ды у іншыя героі кнігі).

Кніга добрая, у нечым непаўторная, арыгінальная, змястоўная. Галоўнае, каб дайшла яна да шырокага кола чытачоў. Лічу, што сваёй кнігай «Зерне да зерня» Алесь Марціновіч зрабіў важкі ўнёсак у стварэнне матэрыяльнай базы для папулярызацыі сапраўды гістарычных, далёкіх ад кан'юнктуры ведаў, праца заслугоўвае павагі ды грамадскай падтрымкі.

**Уладзімір АНІСКОВІЧ,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Агульны тыраж 92.132.
Індэкс 63850.
Зак. № 5469.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12